


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

12 сакавіка 2004 года

№ 11 (464)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

ТэлетыДзень 18


## Навіны рэгіёну



### На памежжы

**АСТРАВЕЦ.** Аб адукацыйным супрацоўніцтве ішла ў аўторак гаворка ў Рымдзюнскай СШ з літоўскай мовай навучання паміж спецыялістамі дэпартамента адукацыі і навукі Літвы і Міністэрства адукацыі нашай краіны.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Без перспектывы?

**СМАРГОНЬ.** У бліжэйшыя 5 год маладыя сем'і, якія жывуць у інтэрнатах, не маюць магчымасці палепшыць жыллёвыя ўмовы. Гэта паказалі даследаванні тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання "Цёплы дом".

**Ірына РАБУШКА.**

### Затрымалі

**ВІЛЕЙКА.** Двое маладых людзей напалі ў раёне ачышчальных збудаванняў на мужчыну, які ішоў з работы. Збілі, адабралі пашпарт, грошы. Праз некалькі гадзін іх затрымалі супрацоўнікі раённага аддзела ўнутраных спраў. Зладзеі былі судзімымі.

**Марына СЛІЖ.**

### Культурны дэсант

**МЯДЗЕЛ.** Нядаўна райцэнтр наведалі народныя артысткі Беларусі актрыса Дзяржаўнага музычнага тэатра **Наталля Гайда** і актрыса Купалаўскага тэатра, ураджэнка Мядзельшчыны **Марыя Захарэвіч**. У доме культуры адбылася іх творчая сустрэча "Прызнанне ў каханні".

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Застаўся без даху

**ВАЛОЖЫН.** Ад няспраўнасці печы 10 сакавіка загарэўся жылы дом па вуліцы Чапаева. Згарэў дах і кухня. Гаспадар жыў адзін і падчас пажару быў на рабоце.

**Святлана ЦІШКО.**

### Канцэрт на мытні

**АШМЯНЫ.** Раённы дом культуры наладзіў 5 сакавіка для работніц Ашмянскай мытні канцэрт на 1,5 гадзіны. Народны ансамбль "Зорны россып", што працуе пры доме культуры, цалкам складаецца з мытнікаў.

**Святлана ЦІШКО.**

### Фестываль пачакае

**МАЛАДЗЕЧНА.** Фестываль сярэдневяковай культуры «Белы замак-2004», які меў адбыцца 19—21 сакавіка, напэўна адмяняецца. Хутчэй за ўсё, сказала дырэктар Палаца культуры **Святлана Грыцкевіч**, ён адбудзецца пазней. Прычынай мог стаць музычны конкурс, які супаў па часе з «Белым замкам».

**Святлана ЦІШКО.**



«Гарачая вада будзе адключацца з панядзелка па пятніцу ўключна. ЖКА». Такую аб'яву прачыталі жыхары дома №20 па вуліцы Ф.Скарыны ў Маладзечне.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

# Вада па графіку

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхарам дома (маласямейнага інтэрната) №20, што па вуліцы Ф.Скарыны, гарачую ваду даюць толькі па суботах, нядзелях, а таксама з другой паловы дня ў пятніцу. Па словах галоўнага спецыяліста аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі гарвыканкама Наталлі Яршовай, у такім становішчы апынуліся тры інтэрнаты, якія належаць заводу «Спадарожнік».**

Большасць жыхароў вышэйзгаданага дома ўвогуле ўжо не працуе на гэтым прадпрыемстве. У працуючых спадарожнікаўцаў бухгалтэрыя "Спадарожніка" ўтрымлівае грошы за аплату камунальных паслуг, акрамя святла і газу, з заработнай платы ці дзіцячай дапамогі. Напрыклад, у Ірыны Жаркевіч вылічылі цалкам дапамогу за 5 месяцаў (больш за 90 тысяч рублёў). Усе разлікі вядуцца праз «Спадарожнік». Гаротнікі не разумеюць, чаму ў кватэрах няма вады: «Мы ўсё плацім», — гавораць яны ўголас. Маці паўгадавалага Максімкі Ірына Васілеўна скардзіцца, што холадна купаць дзіця, пялёнкі не сохнуць, у ванным пакоі сыра. Сябрукі па няшчасці заўважылі: сыны і дочкі пачалі хварэць. Пётр Бірук, які аддаў 16 год заводу, не ведае, у чым правініўся. Маўляў, і аплачваю своечасова, а ўмоў няма.

Галоўны спецыяліст гарвыканкама Наталля Яршова заначыла, што не ўсе жыхары плацяць за камунальныя паслугі. Таму і пакутуюць не толькі па віне слабога прадпрыемства-гаспадара, але і па ўласнай. Гарачую ваду не адключаць, пакуль «Спадарожнік» не разлічыцца за энерганосьбіты. Па словах Наталлі Яршовай, ваду будуць падаваць прапарцыянальна праведзенай аплаце. Жыхары прапануюць «разлучыць» іх з заводам, каб разлічвацца самастойна, як большая частка насельніцтва. Яны ведаюць і тое, што «Спадарожнік» не бярэ крэдыт у банку на выплату камунальных паслуг. Наталля Яршова патлумачыла:

— Прадпрыемства ў цяжкім становішчы. Гэтыя крэдыты таксама ж прыйдзецца аплаціць. Самастойная аплата жыхарамі пакуль немагчымая. Па-першае, у іх няма прамога дагавора з энерганаглядам. Па-другое, каб «ажыццявіць» самастойнасць, варта ўвесці новыя працоўныя месцы ў энерганаглядзе, зразумела, з заработнай платай. Маладзечанскі энерганагляд толькі аддзяленне. Галоўнае кіраўніцтва знаходзіцца ў Мінску, якое не дазваляе наняць ці выдзеліць дадатковых спецыялістаў.

Энерганагляд адключае гарачую ваду згодна з палажэннем №1578 ад 14.11.2002 года Савета Міністраў «Аб парадку абмежавання ці спынення падачы прыроднага газу, электрычнай і цеплавой энергіі спажыўцам, якія не забяспечваюць своечасовую іх аплату». Што і напісана ў дагаворы, які існуе паміж «Спадарожнікам» і энерганаглядам. У іншым выпадку апошнія будуць адказваць, чаму прадаюць «тавар» без грошай. Як сказала інжынер па разліках гэтай установы Галіна Камінская, на 1 сакавіка завод вінаваты 242,6 мільёна рублёў, у тым ліку 53,4 мільёна рублёў за ўсё ведамаснае жыллё.

Выконваючы абавязкі дырэктара завода Франц Кунцэвіч пераклаў гэтыя лічбы ў словы:

— Наша запазычанасць роўная паўтарагадоваму аб'ёму вытворчасці. Асабіста я нічога не магу зрабіць, каб у інтэрнатах штодня была гарачая вада ці працавалі ліфты. Я запазычанасць не рабіў. Адзінае выйсце бачу ў продажы нашага пансіянату, што на Нарачы, "Беларусбанку". Летась у верасні яго закрылі. Раней тут лячыліся і адпачывалі.

Паводле слоў Наталлі Яршовай, «Спадарожнік» павінен разлічыцца да канца 1-га квартала.

**Ірына РАБУШКА.**


### Сярдзючкін гумар

Да нас едзе Сярдзючка. Аб гэтым паведамляюць афішы, развешаныя па Маладзечне. Карэспандэнт "РГ" пацікавілася коштам білетаў і высветліла, што...

2-я старонка

### Крывавая драма ў Куранцы

Першы вясенні дзень для састарэлай куранчанкі, былога вязня канцлагераў, скончыўся трагічна. Яна загінула ад рук рабаўніка.

4-я старонка

### Валожынскія зубры



Дзесяць год спалнілася, як на тэрыторыі Валожынскага лясгаса пасвіўся статак зуброў.

6-я старонка

■ **АНОНСЫ**

## Запрашае Казінец

**ВІЛЕЙКА. На канцэрт нацыянальнага акадэмічнага ансамбля народных інструментаў у Палацы культуры запрашае 13–га сакавіка ў 17.00 яго кіраўнік Міхась Казінец.**

Канцэрт пройдзе у рамках святкавання 50–годдзя Вілейскай школы мастацтваў. Рэктар акадэміі музыкі, ураджэнец вёскі Цынцавічы прафесар Міхась Казінец закончыў гэту школу (тады музычную) ў 1956 годзе.

**Мікола ГАЙДУК.**

## Крылы Бацькаўшчыны

**МАЛАДЗЕЧНА. Творчую сустрэчу "Бацькоўская зямля дала нам крылы" ладзяць 12 сакавіка ў 17.00 ў Палацы культуры былыя маладзечанкі.**

Паэтка навуковы супрацоўнік Нацыянальнай бібліятэкі Людка Сільнова, журналістка і паэтка са Смаргоні Ала Страшынская–Клемянок, галоўны рэдактар аднаго са сталічных часопісаў для жанчын Тамара Міжыгурская–Бунто некалі скончылі маладзечанскія школы. Гэтыя жанчыны прыязджаюць у Маладзечна да сваіх матуль, заўсёды цікавяцца жыццём роднага горада.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Струнны канцэрт

**МАЛАДЗЕЧНА. Справаздачны канцэрт "Музыка без межаў" струннага аддзялення дзіцячай музычнай школы будзе праведзены 17 сакавіка ў 18 гадзін у межах святкавання 55–годдзя навучальнай установы.**

У канцэрце возьмуць удзел ансамблі малодшых і старэйшых класаў, квінтэт скрыпачоў, ансамбль віяланчэлістаў, камерны ансамбль выкладчыкаў "Натхненне".

Прыняць удзел у канцэрце запрошаны былыя вучні і настаўнікі школы, якія працуюць цяпер у розных гарадах Беларусі. Сярод іх – кампазітар Целяпнёў, загадчыца аддзялення музвучылішча Ніна Дабравольская. Арганізатары канцэрта запрашаюць на яго ўсіх аматараў музыкі.

**Вольга КУЛЕЎНІЧ.**

## «Прамая лінія»

**МАЛАДЗЕЧНА. 17 сакавіка з дырэктарам вучэбна-педагагічнага комплексу "гімназія-каледж" Таццянай Аляксандраўнай Кірэевай будзе праводзіцца "прамая лінія".**

У гэты дзень (у сераду) з 9.30 да 11.00 вы можаце патэлефанаваць па нумары 5-05-15 і задаць пытанні, якія вас цікавяць.

**Гімназія-каледж.**

# Міс Смаргонь-2004

**СМАРГОНЬ. У аўторак карэспандэнт "РГ" сустрэлася з пераможцай конкурсу прыгажосці "Міс Смаргонь-2004" Вікторыяй Соснай. На думку дзяўчыны, магчыма, гэта імя, што азначае "перамога", дапамагло ёй, бо саперніцы былі моцныя і дастойныя. Для знаёмых і самой Вікторыі перамога стала нечаканасцю.**

Пачнём па парадку. Конкурс прыгажосці для яе пачаўся са... слупа, дзе выпадкова ўбачыла аб'яву аб запрашэнні смаргонак да ўдзелу на «Міс...-2004». Сябры настойвалі паспрабаваць. Бацькі былі супраць. І ўсё ж такі Вікторыя рашылася на конкурс. Цяжкія будні падрыхтоўкі не адбілі ахвоты выйсці на сцэну ў той самы самы дзень, дзе вызначаўся лёс 11 дзяўчат і адной галоўнай кароны.

На першым этапе конкурсу «Свой стыль» яны дэманстравалі паўсядзённае адзенне, тое, што любяць апранаць. Вядучыя ў гэты момант прадстаўлялі ўдзельніц. Шмат хто з гледачоў упершыню пачуў імя – Вікторыя Сосна – 11-класніца сярэдняй школы №1.

На другім этапе дзяўчаты паказвалі мадэлі адзення мясцовага дома быту. Вікторыя гаворыць, што ёй дастаўся адзін з лепшых касцюмаў.

Утульна адчувала яна сябе і на наступным этапе пад назвай «Спартыўны стыль». 9 год яна займалася



**Вікторыя Сосна перамагла ў конкурсе прыгажосці "Міс Смаргонь-2004".** Фота Ірыны РАБУШКІ.

мастацкай гімнастыкай. Да таго ж мае разрад кандыдата ў майстры спорту.

Але лепш за ўсё дзяўчыне было ў купальніку. Яна ўспамінала лета, любімую пару года. І марыла, што калі-небудзь правядзе яго ў Парыжы.

Не адзін хлопец захацеў такую жонку, як Вікторыя, падчас паказу «Вясельнай сукенкі». Менавіта аб такім уборы марыць дзяўчына. Хлопцы ж не памыліліся ў сваім жаданні. Вікторыя добра гатуе, шые. Толькі з замужжам прыйдзецца крыху пачакаць. Яна мяркуе, што гэты крок варта зрабіць гадоў у 25. Галоўным у сям'і лічыць павагу, каханне, узаемапаразуменне і, канешне, дзіця, а лепш двое.

Тады і на прыём да англійскай каралевы схадзіць можна. Прычым менавіта ў тым адзенні, што апранула на перадапошні этап «Вячэрняя сукенка». Думка надрэнная. Мяркую, Вікторыя абавязкова б расказала аб Беларусі і слаўным горадзе Смаргоні.

Напрыканцы конкурсу ўдзельніцы расказалі аб сабе. У зале даведаліся, што Вікторыя любіць падарожнічаць, знаходзіць новых сяброў.

Нарэшце Вікторыя Сосна — пераможца «Міс Смаргонь-2004». У першыя хвіліны не маці, што ўвесь час «хварэла» за кулісамі, плакала. Сябры рваліся на сцэну, каб павіншаваць. Міс Смаргонь-2001, якая вітала Вікторыю, была ў разгубленасці: «Ну, нічога сабе». Сёлетняя пераможца заўважыла яе павялічаныя вочы.

Цяпер жа Вікторыя Сосна занятая вучобай: вельмі хоча стаць доктарам. Дарэчы, да цэнтралізаванага тэсціравання, што ўвялі ў сістэме адукацыі, ставіцца не надта добра. Разам з тым дзяўчына абмяркоўвае ўдзел у конкурсе прыгажосці «Міс Гродна-2004», куды яе запрасілі.

**Ірына РАБУШКА.**

■ **ВЫХАВАННЕ**

# Клопаты школы мастацтваў

**АШМЯНЫ. У дзіцячай школе мастацтваў клопатна. Як навучэнцы, так і выкладчыкі рыхтуюцца да конкурсаў.**

### Дзеці едуць у Ліду

Юныя музыканты збіраюцца на конкурс імя Горскага, які пройдзе ў Лідзе. 12 дзяўчынак і хлопчыкаў будуць прадстаўляць там Ашмяны. Па класу фартэпіяна Паліна Рагачова, Алена Люгоўская, Надзя Барабанава, Юля Яшэўская, Таня Раманюк і другакласніца Насця Янч, якую ў школе за здольнасці называюць сваёй маленькай зорачкай.

"Не сорамна паказаць, — расказвае намеснік дырэктара школы па вучэбнай частцы Наталля Міцэвіч, — і Станіслава Яблонская, Івана Паўловіча, Алега і Віку Андрыеўскіх, Вову Люткоўскага, які займаецца ў нас па класу баяна-акардэона. Дарэчы, у іх вельмі сур'ёзная і складаная праграма".

Рыхтавалі дзяцей 6 выкладчыкаў. Марына Хадаровіч, Таццяна Каралёва, Віктар Аленскі, Міхаіл Каралёў, Іосіф Войнюш, Наталля Міцэвіч. Яны ж будуць суправаджаць сваіх выхаванцаў і на конкурс. Дарэчы, каб трапіць на яго, дзецям трэба было выйграць першы, адборачны тур, які прайшоў на базе сваёй школы.

### «Карусель» збіраецца ў Мінск

"Карусель". Такую назву мае аркестр народных інструментаў выкладчыкаў дзіцячай школы мастацтваў, які заявіў аб сабе на рэспубліканскім аглядзе-конкурсе метадычных творчых работ. Цяпер ён рыхтуецца да заключнага этапа гэтага конкурсу, які маецца адбыцца ў сярэдзіне сакавіка ў Мінску.

"Рэпертуар у нас, — расказвае Наталля Міцэвіч, — складаецца з розных твораў. У праграме – апрацоўкі беларускіх народных песень, ёсць класіка, сучасныя кампазіцыі. З усім гэтым і паедзем у сталіцу".

У аркестры, якім кіруе дырэктар школы Жанна Мажэйка, дзевяць чалавек. Сама яна іграе на балалайцы, намеснік Наталля Міцэвіч і выкладчыца Галіна Шабановіч – на баянах. Яшчэ ў аркестры ёсць скрыпка, што пяе ў руках Таццяны Чэрскай, кантрабас, цымбалы, якія падпарадкоўваюцца Аляксандру Жукоўскаму і Алене Гац, а таксама ўдарныя інструменты, за якімі Віктар Аленскі.

Пра прызавыя месцы ў калектыве не гавораць. Загадваць наперад лічаць дрэннай прыкметай. А вось гэтай прыемнай навіной пахваліліся: па выніках раённага спаборніцтва сярод устаноў сацыяльна-культурнай сферы за мінулы год Ашмянская дзіцячая школа мастацтваў узнагароджана Дыпломам райвыканкама і грашовай прэміяй у памеры 20 –і базавых велічынь.

**Марына СЛІЖ.**

# У Маладзечне выступіць Верка Сярдзючка. За «пятак»

**МАЛАДЗЕЧНА. Да нас едзе Верка Сярдзючка! У гэта хацелася верыць і не верылася. Тое, што маладзечанцы дастойныя візіту гэтага артыста, не выклікала сумненняў.**

Прыязджалі да нас і больш раскручаныя зоркі. Хто не захоча выступіць у нашым новым Палацы культуры? Але насцярожваў кошт білета – 5, 7 і 9 тысяч рублёў. У той час, калі ў Мінску білет "на Сярдзючку" каштуе не менш за 35 тысяч. З якой-такой радасці да нас такая паблажлівасць? Няўжо Андрэя Данілку хвалюе, што ў сталіцы Беларусі ўзровень жыцця значна вышэйшы, чым у райцэнтры, і гледачы там ахвотней аддадуць кроўныя 35 тысяч проста за добры настрой?

Падазрэнне, што Сярдзючка несапраўдная, з кожнай хвілінай нарастала. Яно прымусіла ўважліва прачытаць афішу. "Верка Сярдзючка, – паведамляла яна, – у грандыёзным эстрадна-парадыйным тэатралізаваным (што гэта значыць?) шоу. Пароды на "СВ шоу"... песні, гумар, цудоўны настрой і мора задавальнення пародыць Вам на прадстаўленні Каралева ўсіх чыгунак Верка Сярдзючка – лаўрэат міжнародных конкурсаў Мікалай Каласей, а таксама Леанід Грыц і Макс Ганчарэнка". У касе Палаца па тэлефоне растлумачылі папулярна: "Гэта артысты Брэсцкай філармоніі будуць парадзіраваць Верку Сярдзючку і іншых вядомых артыстаў".

Значыць, да нас прыедуць імітатары, не арыгінал. Але, як сказала адна мая калега, гэта не значыць, што будзе нецікава.

**Святлана ЦІШКО.**

■ **ДУМКІ ЎСЛЫХ**

## Слова – не верабей

З калегай вярталіся з семінара ў панядзелак. Нягледзячы на будны дзень, людзей у электрычцы было шмат. І мы, зразумеўшы, што вольных месцаў ля акна не знайсці, селі побач з жанчынай, якая засяроджана чытала.

Адразу абмяркоўвалі пачутае падчас вучобы, затым пераключыліся на сем'і. "З камандзіроўкі? — раптам спыталася жанчына. – Я таксама. Еду вось і ўсю дарогу думаю, як яна там, мая дачушка. Бабуля далёка, а бацькі – няма".

Я не асмелілася спытацца, чаму ў дзяўчынкі няма бацькі. Ці мала што ў жыцці бывае. Раптам нядаўна памёр, і рана, якая не зажывае, прымусіла нашу спадарожніцу такім вось чынам яшчэ раз успомніць пра яго. А можа — пакінуў сям'ю, знайшоўшы новае каханне... Недзе праз хвіліну яна сама адказала на ўсе пытанні.

"У той год я збіралася стаць маці, — пачала жанчына стомленым, дрыжачым голасам. – Мне было далёка не дваццаць, цяжарнасць працякала цяжка, таму шмат часу праводзіла на бальнічным ложку. Мужу гэта не падабалася. Я старалася растлумачыць, што цяжкасці часовыя. Праз чатыры месяцы народзіцца дзіця і ўсё стане на свае месцы. "Здохніце вы разам!" — сказаў у адказ ён і запусціў у сцяну кубкам.

Ранічай наступнага дня яна склала ў сумку свае рэчы і пакінула дом. Адразу туляласа па знаёмых, затым зняла сабе на доўгі час аднапакаёўку. Туды і прывезла Светачку з радзільнага дома. Ёй купіла за дэкратныя ложак, а сама, трэба было берагчы грошы, спала на падлозе. Муж знайшоў яе адрас, прыходзіў, прасіў забыцца на крыўды, вярнуцца дадому, не згадзілася. "Усё магла б яму дараваць, нават здраду, — гаворыць жанчына. – А слова гэта праклятае — ніколі".

Заяву на развод яна падала сама. Ад аліментаў таксама адмовілася. Не хацела браць грошай ад чалавека, які пажадаў смерці сваім, яшчэ ненароджанаму дзіцяці.

Некалькі разоў ёй мужчыны прапаноўвалі руку і сэрца. Замуж не пайшла. Не звязаў ні з кім свайго лёсу і былы муж, якога яна ўсё ж упусціла ў свой дом і пазнаёміла з дачкой. Прыходзіць на святы, прыносіць ёй толькі кніжкі і цацкі, іншых падарункаў была жонка рабіць не дазваляе.

... Слова не верабей, вылеціць – не зловіш, – гаворыць народная мудрасць, у праціваргу якой можна было б паставіць яшчэ адну: навучыцца гаварыць, сумей і змаўчаць. Чаго толькі ў злосці не гавораць адно аднаму людзі: язык жа без касцей. Меле сабе ды меле. Пасля плачуць, каяцца, просяць прабачэння, мірацца. Сапраўды, немагчыма ж усё жыццё не размаўляць з мужам, жонкай, бацькамі. Хаця ўчарашняя, пазаўчарашняя сварка пакідае ў сэрцы свой след. Згадзіцеся, цяжка піць чай за адным сталом з чалавекам, які сказаў табе, хай сабе і ў злосці: "Я цябе ненавіджу".



**Разважала Марына СЛІЖ.**

■ ГАНДАЛЬ

# Адкрыўся новы міні-рынак

**МАЛАДЗЕЧНА. Нядаўна адкрыўся новы крыты міні-рынак, які размясціўся ў тым жа будынку, у якім знаходзіцца пункт пракату, па вуліцы Ф.Скарыны, 20. Месцазнаходжанне выбрана, на мой погляд, даволі ўдала. Ён стаіць на мяжы 3-га і 4-га мікрараёнаў, якія працягваюць будавацца і абжывацца.**



У гандлёвай зале на міні-рынку, што адкрыўся па вуліцы Ф.Скарыны, 20.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Адміністратар рынку – Жанна Абуховіч – спецыяліст з эканамічнай адукацыяй. Не першы год працуе прыватным прадпрымальнікам. Па яе словах, з моманту ўзнікнення самой ідэі да адкрыцця прайшло паўгода. За гэты час быў зроблены рамонт самога памяшкання, арэндаванага ў камунальнага унітарнага прадпрыемства "Адпачынак", рамонт пункту пракату, а таксама добраўпарадкаванне прылеглай да будынка тэрыторыі.

Толькі на ўкладку тратуарнай пліткі было выдаткавана каля 12 мільёнаў рублёў. У падрыхтоўцы, рамонце, забеспячэнні абсталяваннем і фінансаванні ў роўных долях удзельнічалі 9 прадпрымальнікаў. Сёння ў павільёне працуюць адпаведна 9 гандлёвых пунктаў, у якіх пазменна гандлююць 18 прадаўцоў. Цэны на прадукты ў сярэднім адпавядаюць цэнам гарадскога калгаснага рынку. "Мы стараемся задаволіць попыт пакупнікоў з розным узроўнем дастатку, — гаворыць Жанна Абуховіч. – Нам бы вельмі хацелася, каб, зайшоўшы за боханам хлеба альбо пакетам малака, пакупніку захацелася набыць таксама ўвесь патрэбны яму набор прадуктаў. І разам з тым ён быў упэўнены ў тым, што няма неабходнасці шукаць нешта дзешавейшае і больш якаснае ў іншых крамах". На рынку прадстаўлены шырокі асартымент хлеба-булачных, кандытарскіх, малочных, мясных і кілбасных вырабаў.

Чорны хлеб "Багатырскі" вытворчасці Маладзечанскага хлебазавода вагой 0,7 кг і коштам 650 руб., таксама мінскай вытворчасці: "Водар" (0,7 кг, 660 руб.), "Урачысты" (0,9 кг, 1050 руб.). Малако "Дзіцячае" вітамінізаванае аб'ёмам 0,25 г па цане 385 руб. Тэрмін захоўвання – 2 месяцы з дня вырабу. Каля 30 сартоў печыва коштам ад 2240 да 5420 руб.

Першы месяц работы — пробны і эксперыментальны. Кіраўніцтва вывучае попыт і меркаванні пакупнікоў аб рабоце рынку. Прадаўцы перадаюць пажаданні для адміністрацыі, якая стараецца іх своечасова задаволіць. Менавіта такім чынам была вырашана праблема продажу свініны і ялавічыны. Прадпрымальнікі не мелі магчымасці прымаць і разбіраць тушы на месцы. Таму цяпер яны набываюць свежае мяса, расфасаванае ў заводскай упакоўцы. Гэтае мяса прадаецца па цэнах, якія не перавышаюць цэны на мяса на іншых рынках Маладзечна.

Рынак працуе без выхадных. Асноўны наплыў пакупнікоў прыпадае на вечар, з 16 да 20 гадзін – час, калі людзі ідуць з работы. Тыя, хто затаварваецца наперад раз на тыдзень – у выхадныя, — могуць зрабіць гэта ў сваім раёне.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

**Цэны на міні-рынку па вул. Скарыны і калгасным рынку ў Маладзечне (рублёў за 1 кг)**

| | міні-рынак | калг. рынак |
|---|---|---|
| Свініна (смажаніна) | 4500 | 5400 |
| Ялавічына (выразка) | 5950 | 6500-7500 |
| Салямі "Палеская" | 5950 | 5980 |
| Фарш (свініна+ялавічына) | 3950 | 4640 |
| Кураняты | 4650 | 4700 |
| Алей "Злата" | 2800 | 2500 |
| Соус таматны "Мінскі" | 1000 | 950 |
| Мандарыны | 3400 | 3100 |

## Курсы валют НБ РБ

| | 4.3 руб. | 11.3 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2153,00 | 2151,00 |
| Еўра | 2621,39 | 2645,62 |
| Злоты | 540,64 | 556,28 |
| Літ | 759,14 | 766,39 |
| Расійскі рубель | 75,31 | 75,28 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2155/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 3.3 | 10.3 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13830 | 13830 |
| Сасіскі, 1 кг | 4890 | 4890 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 1000 | 1000 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1430 | 1570 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 1000 | 1000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1200 | 1150 |
| Капуста, 1 кг | 350 | 380 |
| Морква, 1 кг | 600 | 600 |
| Лімоны, 1 кг | 2900 | 3000 |
| Апельсіны, 1 кг | 1980 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1400 | 1400 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2800 | 2700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2400 | 2300 |
| Сала, 1 кг | 3500 | 3500 |
| Бульба, 1 вядро | 3000 | 3000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1100 |



■ МЯЖА

## Пункты пропуску Беларусь–Літва

**МІНСК. З 1 мая двухбаковыя пункты пропуску на літоўска-беларускай дзяржаўнай мяжы Адуцішкіс — Мальдзевічы, Эйшышкес — Доцішкі, Кракунай — Геранёны, Лацежарыс — Парэчча, Папялякіс — Лынтупы, Тврачус — Відзы будуць часова закрытыя для транспартных сродкаў, якія перавозяць грузы і маёмасць, да ўсталявання ў іх неабходнай інфраструктуры.**

Пра гэта паведаміла прэс-служба Міністэрства замежных спраў Беларусі са спасылкай на знешнепалітычнае ведамства Літвы.

Як зазначаецца ў паведамленні, гэтае рашэнне прынята на падставе пункта 3 артыкула 5 Пагаднення паміж урадамі Літоўскай Рэспублікі і Рэспублікі Беларусь аб пунктах пропуску праз дзяржаўную мяжу, падпісанага 18 ліпеня 1995 года ў Мінску.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

## Расклад руху электрычак па ст. Маладзечна з 2 сакавіка 2004 года

| Маладзечна адпр. | Мінск прыб. | без прып. | Мінск адпр. | Маладзечна прыб. | |
|---|---|---|---|---|---|
| **4.32** | 6.16 | Сел., Крын., Прал. | **4.37** | 6.12 | |
| **5.21** | 7.10 | | **5.21** | 7.07 | |
| **5.48** | 7.40 | Сел., Крын. | **6.39** | 8.17 | |
| **6.54** | 8.43 | | **7.33** | 9.28 | |
| **7.26*** | 8.50 | | **8.20** | 10.09 | |
| **8.50** | 10.50 | | **8.58** | 10.46 | |
| **9.43** | 11.35 | | **10.00** | 11.51 | |
| **10.58** | 12.49 | | **11.11** | 12.59 | |
| **12.07** | 13.48 | птн., вых., Рам., Хмел., Зял., Крыж. | **12.38** | 14.27 | |
| **12.46** | 14.36 | | **13.34** | 15.23 | |
| **13.52** | 15.42 | | **14.58** | 16.38 | птн., вых. |
| **15.08** | 16.59 | | **15.31** | 17.20 | |
| **15.51** | 17.42 | | **16.34** | 18.22 | |
| **16.53** | 18.44 | | **17.34** | 19.21 | |
| **17.46** | 19.34. | | **19.02**** | 20.21 | |
| **18.37** | 20.25 | | **19.16** | 21.04 | |
| **19.54***** | 21.20 | | **20.36** | 22.23 | |
| **20.37** | 22.35 | Леб. | **22.01** | 23.42/23.51 | |
| **22.24** | 23.57 | Сел., Рам., Прал.,Хмел., Зял., Крыж., М.Мора, Леб. | **23.47** | 1.14 | |

* з прыпынкамі Фестывальны, Уша, Аляхновічы, Радашкавічы, Беларусь, Ждановічы, Лебядзіны, Масюкоўшчына, Радыятарны
** з прыпынкамі Радыятарны, Масюкоўшчына, Лебядзіны, Ждановічы, Ратамка, Беларусь, Радашкавічы, Дубравы, Аляхновічы, Уша, Фестывальны
*** з прыпынкамі Фестывальны, Уша, Аляхновічы, Дубравы, Радашкавічы, Беларусь, Ратамка, Ждановічы, Масюкоўшчына, Лебядзіны.

## Расклад руху прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна

| | Маладзечна адпр. | Гудагай прыб. | дні курсір. | | Гудагай адпр. | Маладзечна прыб. | дні курсір. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **8.42** | 10.28 | штодз. | | **5.25** | 7.12 | штодз. |
| | **13.09** | 14.54 | вых. | | **10.43** | 12.25 | штодз. |
| | **15.53** | 17.38 | штодз. | | **15.18** | 17.05 | вых. |
| | **18.03** | 19.52 | штодз. | | **17.55** | 19.38 | штодз. |
| | **20.43** | 22.32 | штодз. | | **20.09** | 21.50 | штодз. |
| | Маладзечна | Ліда | | | Ліда | Маладзечна | |
| | **8.35** | 11.42 | штодз. | | **3.52** | 7.00 | штодз. |
| | **12.41** | 15.53 | вых. | | **9.09** | 12.18 | штодз. |
| | **17.51** | 20.56 | штодз. | | **12.18** | 15.26 | вых. |
| | **20.32** | 23.42 | штодз. | | **16.19** | 19.27 | штодз. |
| | Маладзечна | Крулеўшчына | | | Крулеўшчына | Маладзечна | |
| Параф. | **7.20** | 9.20 | ндз. | | **4.40** | 7.00 | штодз. |
| Пол. | **8.30** | 10.50 | штодз. Пол. 13.00 | Параф. | **9.38** | 11.36 | ндз. |
| | **12.35** | 14.56 | вых. | | **15.14** | 17.38 | вых. |
| Глыб. | **20.36** | 22.57 | штодз. Глыб. | Пол. | **17.09** | 19.35 | штодз. Пол.14.42 |
| | | | | Пол. | **18.49** | 21.20 | пятн. Пол.16.47 |

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Хто сябе пазнае?



Ці ведае старэйшае пакаленне, што пра іх думае моладзь? Ці задумваецца моладзь, што некалі зойме месца старэйшых ў гэтым жыцці?

Фота ByMedia.Net

## Што думаюць пра дарослых падлеткі?

**Тэму гэтага ўрока падказала дзяўчынка па мянушцы Вілка. Так яна падпісала пісьмо, якое даслала мне па электроннай пошце.**

З гэтым пытаннем "Што думаюць пра дарослых падлеткі?" я звярнуўся да сваіх вучняў. Вось урыўкі з іх адказаў.

"Літаральна ўсе дарослыя – упартыя рэалісты. Што не цікава ім, павінна быць не цікава нам".

"Чым старэйшымі яны становяцца, тым больш яны бурчаць".

"Мае суседзі зануды, яны заўсёды сядзяць на лаўцы каля пад'езда і абгаворваюць усіх, хто праходзіць міма".

"У суседнім пад'ездзе мужык п'е, п'яны кідаецца на жонку, а яна яму кіпеню ў морду".

"Мае бацькі заўсёды крычаць на мяне ні за што. А навошта крычаць, калі можна спакойна ўсё растлумачыць."

"Многія дарослыя жывуць па двайных стандартах, ад нас патрабуюць, каб мы не пілі, не курылі, не сварыліся, не манілі, не..., а самі ўсё гэта робяць з задавальненнем".

"Бацькі баяцца, каб іх дзеці не паўтаралі памылкі, якія яны рабілі самі, але ж на тое яны і памылкі, каб на іх вучыцца."

"Настаўнікі – вялікія людзі са сталёвымі нервамі. Толькі і ў сталі ёсць стомленасць металу".

"Дарослым карысна час ад часу падурэць. А то кожны дзень праца, дом, сям'я, дзеці і г.д. Сумна."

Вось так. Можа, хто пазнаў сябе, дык яшчэ ёсць час змяніцца. Амерыканскі доктар і настаўнік Бенджамін Спок казаў: "Для многіх падлеткаў працэс сталасці праходзіць вельмі няпроста. Ён болей паходзіць на шторм, які бушуе ў іх эмоцыях на працягу некалькіх гадоў. Падлеткі як бы інстынктыўна прымяраюць на сабе стыль паводзін як станоўчых, так і адмоўных асоб, быццам правяраюць, наколькі ім да твару тое ці іншае "адзенне". А прымерка некаторых з апісаных сітуацый ні да чаго добрага не прывядзе.



**Адкрыты ўрок вядзе Ігар КІЦІКАЎ, kitikoff@tut.by.**

## «СТОП-БРСМ»

**МІНСК. Кампанію пад назвай «Стоп-БРСМ» пачало праводзіць барысаўскае аддзяленне незарэгістраванай маладзёжнай арганізацыі «Зубр».**

Асноўнай прычынай акцыі паслужыла масавае далучэнне да «Зубра» членаў Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі (БРСМ) у Баранавічах, якое адбылося на мінулым тыдні.

З мэтай зрабіць сваю кампанію больш маштабнай і папулярнай, члены барысаўскай арганізацыі «Зубр» стварылі інтэрнэт-сайт www.stop-brsm.tk. Сайт прапаноўвае маладым людзям паведамляць аб фактах прымусовага залічэння ў шэрагі БРСМ, калі такія маюць месца, і выказваць сваю думку наконт гэтага, а таксама ўносіць рэкамендацыі і прапановы.

Першым крокам новай кампаніі, паведамляе сайт, стане акцыя «Стоп-БРСМ», якая пройдзе 10 сакавіка на цэнтральнай плошчы Барысава. У прэс-службе БРСМ каментаваць пачатак кампаніі, скіраванай супраць іх арганізацыі, БелаПАН адмовіліся.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

## Свята Дня волі

МІНСК. «За незалежную Беларусь — разам!» — такі дэвіз выбраў сёлета Усебеларускі нацыянальны аргкамітэт па святкаванні 86-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР). Гэтае святае, што стала Днём волі, адзначаецца 25 сакавіка. Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе Партыі БНФ, да святкавання падрыхтавана вялікая праграма.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

## Абяцанні «Рэспублікі» кампенсацыі пенсіянерам

**МІНСК. Дэпутацкая група «Рэспубліка» абяцае пенсіянерам, інвалідам і ўдзельнікам вайны аказаць садзеянне ў атрыманні кампенсацыі за няпланавае павышэнне тарыфаў на паслугі ЖКГ у сувязі з павелічэннем коштаў на расійскі газ.**

Аб гэтым гаворыцца ў звароце, падпісаным ад імя «Рэспублікі» дэпутатам Валерыем Фраловым. Падставай для звароту паслужылі два выказванні, зробленыя два тыдні таму прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам і дарадцам прэзідэнта Расійскай Федэрацыі па эканамічных пытаннях Андрэем Іларыёнавым.

Пасля таго, як «Газпрам» спыніў пастаўку газу ў Беларусь, Аляксандр Лукашэнка заявіў: «Хоча Пуцін, каб мы плацілі гэтыя грошы, дык давайце будзем збіраць іх ад лекаў, чарнобыльцаў, ад тых, хто гніў у акопах. Няўжо не збяром гэтыя 200 мільёнаў долараў? Збяром і здымем гэтую праблему — і намі перастануць маніпуляваць».

Праз некалькі дзён А.Іларыёнаў прапанаваў беларускаму кіраўніцтву адправіць спісы абяздоленых беларускіх ветэранаў у расійскае Міністэрства працы і сацыяльнай палітыкі, абяцаючы дапамагчы.

«Але мы перакананыя, што Лукашэнка ніколі не пойдзе на такі крок», — гаворыцца ў звароце групы «Рэспубліка», члены якой прапаноўваюць высылаць заявы з просьбай аб кампенсацыі ў Палату прадстаўнікоў на імя В.Фралова.

«Мы абяцаем вам скласці такія спісы і перадаць іх у Міністэрства працы і сацыяльнай палітыкі РФ. Аб выніках абавязкова праінфармуем», — абяцаюць дэпутаты.

**Паводле БелаПАН.**

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

У дэканаце вывесілі лісту студэнтаў, якіх мелі выкрасьліць праз некалькі дзён, калі не ўнясуць аплаты. А я скуль вазьму грошы? Іду вуліцай і думаю, што зрабіць з сабою. Ці пайсьці на Зялёны мост і кінуцца ў рэчку, ці лепш загінуць пад поездам?.. Асталася я жывая, бо калі так думала й праходзіла Вострабрамскай вуліцай, даведалася ад Вітольда, што шукаў мяне паштальён, які меў для мяне вялікую суму грошай. Аказалася, прыслаў іх мне спадар Юзэф Гапановіч, мой зямляк з Будслава. Трыста злотых, якія ён мне прыслаў, хапіла на аплату за цэлы год вучобы. Пазьней атрымала ільготныя абеды ў акадэміцкай сталоўцы й лекцыі. Магла наняць сабе кватэру. Толькі цяжка мне было даць раду ў вучобе. Аказалася, мае веды з лацінскае мовы былі вельмі слабыя, хаця ў гімназіі я лічылася з гэтага прадмету адной з лепшых вучаніц. Да гэтага я зусім ня знала грэцкай мовы й не па сіле мне было дагнаць студэнтаў, якія гэтай мове вучыліся ў клясычных гімназіях. Таму пастанавіла я перакінуцца на гісторыю.

Запісалася я ў Беларускі Студэнцкі Саюз і пачала кожны вечар бегаць на Завальную, дзе ён знаходзіўся. Пазнала там многа мілых студэнтаў. Зь дзяўчат прыходзілі туды Люня зь Іркай, зь якімі я ў той час вельмі зьбліжылася, Жукоўскія Валя й Рая, Таня Трафімучанка, Ганка Сухая, Лена Аніська і іншыя. Зь сяброў: Вітаўт Тумаш, Бэрнард Стэповіч, Віктар Войтанка, Мітрафан Смаршчок, Антон Шукелойць, Адам Дасюкевіч, Чэсь Найдзюк, Шавель і наймілейшы майму сэрцу Мікалай Шчорс. Было шмат іншых сяброў і сябровак. Пералічыла я тых, зь якімі жыла найбліжэй.

І тут пачала я пець у хоры Р. Шырмы й танцаваць у студэнцкім ансамблі, якім рукаводзіў Янка Хвораст . Быў ён маім партнёрам і танцавала я зь ім, выступаючы на сцэне ў першай пары, часамі выконвалі мы сольныя нумары.

У БСС была я вельмі папулярнай. Многа было прысьвечаных мне вершаў, запісаных у кнізе прысутнасьці.

Абедала за ўсе гады ў акадэміцкай сталоўцы пры адным стале са Шчорсам, Тумашам, Войтанкам, Стэповічам. Абед наш працягваўся гадзінамі. Са Шчорсам спатыкалася я часта ва унівэрсытэцкай сталоўцы.

Будучы на першым годзе унівэрсытэта, пачала я даваць лекцыі Нюсі Тамашэвіч — вучаніцы 6 клясы гімназіі Чантарыцкага, дачцэ польскага ахвіцэра-капітана. Ад першай лекцыі Нюся мяне палюбіла й бегала да мяне кожны дзень, мела лекцыі ці не. Расказвала мне пра свае справы, што здарылася ў школе, што ў сьне бачыла, каго спаткала... Мела яна цудоўную матку, якая радзілася й выхавалася ў Пецярбурзе. Матка яе была французкай, а бацька англічанінам. Айчым — рускім міністрам пры цару. Нюсіна матка адносілася да мяне зь вялікай сымпатыяй.

І так адзін год вучобы ва унівэрсытэце прайшоў. На канікулы выехала я ў Глыбокае да дзядзі Вінцуся, які ў той час сам у бядзе знаходзіўся, бо быў звольнены з працы як арганіст у Шаркоўшчыне. Апрача мяне ў іх была мая сястра Гэльця. Жылі яны недалёка ад цёці Анелі, і я магла заўсёды пажывіцца ў цёці. Вакацыі гэтыя былі для мяне вельмі сумныя. Не давала спакою пытаньне, адкуль узяць грошы на аплату вучобы. Калі я так беспакоілася, прыйшоў аднаго дня ліст ад Нюсі, у якім яна пісала, што перайшлі яны на новую кватэру, маюць у ёй для мяне пакой і прасіла, каб я як найхутчэй да іх прыяжджала. За лекцыі абяцалі яе бацькі даць мне памешканьне і ўтрыманьне. Якая я была шчасьлівая, атрымаўшы такую прапанову! У Вільню ляцела як на крылах. У гэтым жа годзе атрымала я палову стыпэндыі ва унівэрсытэце й магла працягваць сваю навуку.

Далей належыла да БСС і бегала на Завальную кожны вечар. Далей сьпявала ў хоры, танцавала на сцэне падчас канцэртаў... і аглядалася на Шчорса. На Завальнай прыемна было спаткацца са сваімі сяброўкамі й сябрамі. Часта можна было паслухаць цікавы рэфэрат з гісторыі, геаграфіі ці літаратуры Беларусі. Прыходзіў туды Максім Танк і чытаў свае вершы. Рэй вадзіў у Саюзе Шчорс. Яго некалькі гадоў падрад выбіралі старшынёю. Быў ён студэнтам мэдыцыны. Многія зь сябровак уздыхалі да яго патаемна, бо ён мог падабацца. Быў стройны, мудры, але й ганарлівы.

Падзяліліся мы ўсе на два абозы — правіцу й лявіцу. У час выбараў чуць да бойкі няраз даходзіла. Адны хацелі перавесьці сваіх кандыдатаў ва ўрад Саюза, а другія — сваіх.

Слаўныя былі нашы канцэрты ў перапоўненай унівэрсытэцкай залі. Часта на гэтых канцэртах выступаў і Забейда-Суміцкі , які прыяжджаў аж з Прагі. Ладзілі таксама экскурсіі. Памятнай асталася ў Трокі разам з украінцамі.

**Анеля КАТКОВІЧ.**

Працяг будзе.

■ БЫВАЛЬЦЫ

# З працягнутай рукой

У дзверы пазванілі. "Хто б гэта мог быць", — падумала я і, выцершы рукі аб фартух, заспяшалася ў прыхожую. На парозе стаяла трое дзяцей. Дзяўчынка гадоў 12-13-ці і два чарнявыя хлопчыкі. "Цёценька, дайце чаго пакушаць", — слязлівым голасам "прапеў" самы меншы. "Ідзёмце на кухню," — паклікала дзяцей. "Не, нам з сабой, — адразу ж запярэчыла дзяўчынка. – Дайце чаго-небудзь, і мы пойдзем". "Ды не маю вам чаго даць, — пайшла ў наступленне ўжо я, — а вось абедам пакармлю". Хлопчыкі паднялі сумныя, поўныя мальбы вочы на сястру.

Распрануцца не захацелі, рук не мылі, а вось супу і катлет умялі па дзве порцыі. Такую прагнасць да яды я бачыла ўпершыню. Таму, не чакаючы пакуль дзеці стануць зноў прасіць, стала збіраць ім з сабой. У пакет ляцелі крупы, макарона, яблыкі, пернікі. "Вазьмі," — працягнула мяшэчак дзяўчынцы. Яна злаўчылася і... пацалавала маю руку. "Навошта ты гэта зрабіла", — зніякавела я. "Дзякуй, што далі, — патупіўшы вочы, сказала дзяўчо. – Мы дзве гадзіны ля вашых дамоў ходзім, нідзе дзверы ў пад'ездах адчыніць не можам".

Праз два дні яны прыйшлі зноў. Папрасіць якога-небудзь абутку для малодшага брацікa. "Вы да мяне будзеце кожны дзень хадзіць?" – спытала ў дзяўчынкі. "Мы не самі, мама паслала", — прамямліла яна і апусціла галаву. "А чаму мама не прыйшла, яна хворая?" — спачувальна спытала ў самага меншанькага. "Не, яны з дзядзям Сашам п'юць", — з радасцю, што на яго звярнулі ўвагу, адказаў хлопчык.

Боты, добра папароўшыся на антрэсолях, я ім усё ж дала. А сама цэлы вечар думала пра маму, якая прымушае сваіх дзяцей хадзіць па кватэрах і пабірацца. Ведае, напэўна, што ёй не дадуць, выставяць за дзверы, у лепшым выпадку са словамі: "Працаваць ідзі", у горшым – "Валі, пакуль цэлая".



Жабрацтва – прафесія, якой авалодваюць змалку.

Фота ByMedia.Net

Не ведаю, як вам, а мне здаецца, што ўсеагульнае глупства, калі мы падавалі п'яніцам на бутэльку, а цыганкам, што хадзілі з працягнутай рукой па кватэрах, на скураное паліто, прайшло. Людзі сталі з асцярогай адносіцца да такога кшталту няшчасных і Богам пакрыўджаных і больш не вераць у слязлівыя гісторыі пра землятрусы, патопы, засухі і пажары, якія так любяць расказваць чарнявыя жанчыны з вялікімі сумкамі. А паколькі жыць інакш тыя не могуць, то сталі пасылаць замест сябе дзяцей. Адмовіць ім зможа далёка не кожны чалавек. Хоць нешта, ды ўкіне ў сумку.

"Бедным больш не падаю, — зазначыла мая знаёмая. – Навучылася на вопыце іншых". І расказала гісторыю, якая здарылася з яе суседкай.

Зарплату затрымлівалі, Валянціна (назавём жанчыну так) пазычыла ў маці-пенсіянеркі пяць тысяч рублёў і з цяжкім сэрцам хадзіла ля вітрын магазіна, не ведаючы, што на іх купіць. Нарэшце акрэслілася. Купіла хлеб, батон, пакет мукі і колца лівернай кілбасы, на блінчыкі. Толькі зачыніла за сабой дзверы ў кватэру, як тут жа нехта нясмела пазваніў. На парозе стаяла хударлявая, стомленая жанчына. "Міленькая, — прывітаўшыся, пачала свой маналог жанчына, — не дай памерці маім дзецям. Чацвёра іх у мяне. Муж памёр, работы няма. Пакінула іх на суседзяў ды падалася ў белы свет. Буду сядзець склаўшы рукі, загінем. Ніколі не прасіла, калі мела, то яшчэ і іншым давала. А тут лёс самую прымусіў хадзіць з працягнутай рукой".

Разгубленая Валянціна дастала з кашалька апошнюю тысячу. Засаромелася сваёй беднасці і ўсунула жанчыне ў рукі яшчэ і колца каўбасы. Расхваляваная, сноўдалася з кута ў кут па кватэры. Усё не выходзіла з галавы няшчасная жанчына. Каб неяк супакоіць сябе, узяла вядро са смеццем, рушыла на вуліцу. Пад лаўкай, што стаяла ля пад'езда, сядзеў суседскі кот і нешта смачна еў. Прыгледзелася — а там колца ліверкай каўбасы.

У роспачы прыйшла да суседкі. Яе муж, чалавек без сантыментаў, пачуўшы расказ, рагатаў на ўсю кухню. "Валя, — ледзь стрымліваючы сябе, даводзіў ён, — пара б табе ведаць, цыганкі ліверку не ядуць. Яны сервелату, на які мы ім даём грошы, перавагу аддаюць".

Не так лёгка дастаюцца нам тысячы, якія ніяк не даганяюць цэны. І ў той жа час не могуць зразумець беларусы немцаў, што на вечарынках п'юць кожны сваё піва, а яшчэ амерыканцаў, якія не жадаюць выхоўваюць сваіх унукаў. А можа, дзяржаўны лад тут ні пры чым. Можа, справа ў славянскай душы, поўнай спагады, міласэрнасці, якая жыве ў сэрцы амаль што кожнага беларуса. Ну, не можам мы жыць на зямлі, каб не рабіць дабра іншым...

**Марына СЛІЖ.**

■ У СТАЛІЦЫ

## Выстава «Сямейныя каштоўнасці»

**МІНСК. Выстава жывапісу і графікі сям'і Івановых «Сямейныя каштоўнасці» адкрылася 4 сакавіка ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры ў Мінску.**

У экспазіцыі прадстаўлены яркія і аптымістычныя творы, напісаныя ў мяккіх тонах. Тэмы і сюжэты работ у большай ступені паэтычныя, чым рэалістычныя, паколькі ў іх мастакі імкнуцца перадаць стан душы шматлікіх казачных персанажаў і клоунаў, музыкантаў і вандроўнікаў, аслянят і конікаў, ягняці і львоў, катоў і сабак.

Палотны старэйшых **Івановых — Рыгора і Наталлі** — выстаўляліся ў Польшчы, Італіі, Нідэрландах, Германіі, ЗША і Расіі, а творчасць іх дзяцей — Галіны і Дар'і — ужо высока ацэнена ў Беларусі.

Дырэктар музея **Пётр Хацько** зазначыў, што творчасці Р.Іванова ўласцівы рамантызм, палотны яго жонкі носяць філасофскі характар, а работы дзяцей прасякнуты ўплывам і духам імпрэсіянізму. Паводле слоў П.Хацько, гэтая экспазіцыя адкрывае ў музеі серыю вернісажаў пад назвай «Выстава адной сям'і».

Мастацтвазнаўца Вольга Каваленка зазначыла, што ў таленавітай сям'і Івановых кожны яе член з'яўляецца духоўнай каштоўнасцю. «Светлыя і добрыя вобразы іх твораў, а таксама адсутнасць рэзкіх адценняў уносяць раўнавагу і спакой у настрой наведвальнікаў», — сказала В.Каваленка.

Выстава будзе працаваць да 6 красавіка.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

■ УСМІХНІСЯ

## Самая папулярная мана на свеце

**«Вось толькі збіраўся да цябе пазваніць»** – самае папулярнае падманлівае сцвярджэнне паводле апытання часопіса "New Yorker".

Другое месца заняло **«Каханы (каханая), гэта не так, як ты думаеш»**, а трэцяе: **«Такая рэкламацыя здараецца ў нас упершыню!»**.

Наступныя месцы занялі: **«Буду з табой шчыры»**, **«Выбачайце, я толькі на хвілінку»**, **«Могуць пра мяне гаварыць што хочуць, усё адно мяне гэта не кранае»**.



**Паводле www.sadurski.com**

■ ТЭСТ

## Які ў цябе характар?

**Адкажы «так» ці «не».**

**1.** Ці паважаеш ты сяброўства? ("так" – 1, "не" – 0)

**2.** Ці вабіць цябе ўсё новае? ("так" – 0, "не" – 1)

**3.** Ты аддаеш перавагу старому адзенню замест новага? ("так" – 1, "не" – 0)

**4.** Ці прыкідваешся ты задаволеным без усялякай на тое прычыны? ("так" – 0, "не" – 1)

**5.** Ці мяняў ты ў дзяцінстве больш за 3 разы выбар сваёй будучай прафесіі? ("так" – 0, "не" – 1)

**6.** Ці пазбаўляешся ты ўпэўненасці ў сабе, калі перад табой паўстае вырашэнне складанай задачы? ("так" – 0, "не" – 1)

**7.** Ці калекцыяніруеш ты штонебудзь? ("так" – 1, "не" – 0)

**8.** Ці часта ты мяняеш планы ў апошні момант? ("так" – 0, "не" – 1).

**Звыш 6 ачкоў.** Ты ўраўнаважаны чалавек, рэдка прыносіш клопаты бацькам, начальнікам, сябрам.

**Ад 3 да 6 ачкоў.** У цябе зменлівы настрой і характар. Не забывайся, што, праяўляючы пастаянства і настойлівасць, ты будзеш мець вялікія поспехі ў жыцці.

**Менш за 3 ачкі.** Увага! Чаму ты не верыш у свае сілы? Трэба больш давяраць сваім бацькам і пашукаць сабе сяброў сярод калег.

**Паводле psytest. ru**

■ ГУТАРКА З ПСІХОЛАГАМ

## Супрацоўніцтва — выхад з канфлікту

**Як знайсці выйсце ў складанай сітуацыі, як вырашыць канфлікт?**

Супрацоўніцтва як стыль вырашэння любых спрэчак патрабуе працяглай работы, бо вы актыўны ўдзельнік канфлікту і адстойваеце інтарэсы, але пры гэтым стараецеся супрацоўнічаць з іншым чалавекам. Спачатку трэба «выкласці на стол» патрэбы, турботы і інтарэсы абодвух бакоў. Потым абмеркаваць іх. Супрацоўніцтва эфектыўнае, калі ёсць розныя ўтоеныя патрэбы. Звычайна складана вызначыць крыніцу незадаволенасці. У першы момант можа падацца, што абое хочуць аднаго і таго ж ці маюць супрацьлеглыя погляды на аддаленае будучае — што і з'яўляецца крыніцай канфлікту. Аднак існуе розніца паміж знешнімі праявамі (выказваннямі ці пазіцыямі ў спрэчцы) і патаемнымі інтарэсамі — сутнасцю канфліктнай сітуацыі.

Напрыклад, на рабоце можа раздражняць марудлівасць работніка. Адна з прычынаў гэтага — незадаволенасць работай, недастатковая павага, прызнанне. Калі не ўнікнуць у сапраўдную прычыну марудлівасці, то гэта прывядзе да праявы новых праблемаў: дадатковыя перапынкі ў рабоце, выкарыстанне абсталявання ў асабістых мэтах (пры гэтым сам



работнік будзе пераконваць сябе, што мае на гэта права, бо праца недастаткова аплачваецца, і такія паводзіны толькі кампенсацыя за несправядлівыя адносіны да работніка). Начальніку варта высветліць прычыну незадавальнення і паступіць мудра і на карысць падначаленага. Безумоўна, калі праблема рэальна ажыццяўляемая. Тады маруднасць будзе пераможана.

Стыль супрацоўніцтва дапаможа і ў вырашэнні наступных сітуацый, калі:

— выхад з праблемы вельмі важны для абодвух бакоў і ніхто не хоча цалкам адыходзіць ад яе;

— у вас цесныя, працяглыя і ўзаемазалежныя адносіны з другім бокам;

— вы і апанент здольныя растлумачыць шлях сваіх інтарэсаў і выслухаць адзін аднаго;

— абодва ўцягнутыя ў канфлікт бакі маюць аднолькавыя магчымасці альбо не заўважаюць розніцу для таго, каб на роўных шукаць рашэнне праблемы.

Стыль супрацоўніцтва з'яўляецца самым цяжкім, патрабуе пэўных намаганняў. І усё ж такі ёсць сэнс вырашаць канфлікт такім шляхам, бо ён з'яўляецца сяброўскім, правільным падыходам да рашэння і задавальнення інтарэсаў абодвух бакоў. Для таго, каб перагаворы былі плённыя, трэбы прытрымлівацца некаторых асноўных правілаў:

— уважліва выслухаць;

— не перабіваць;

— не злавацца і не паказваць варожасць, нават калі вы не згодныя з выказаным;

— адносіцца адзін да аднаго з павагай;

— старацца зразумець пункт погляду супрацьлеглага боку.



**Доктар, выкладчыца Маладзечанскага медыцынскага вучылішча**

**Таццяна СКАРНЯКОВА.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# «Паўлінка» ў падполлі

**На здымку, які захоўваецца цяпер у фондах Мінскага абласнога музея ў Маладзечне, удзельнікі пастаноўкі купалаўскай "Паўлінкі" ў Маладзечне ў 1922 годзе.**



Удзельнікі пастаноўкі «Паўлінкі» ў Маладзечне ў 1922 годзе.

Фота з фондаў Мінскага абласнога музея ў Маладзечне.

Пастаноўка была нелегальнай, польскія ўлады не цешылі ўвагай беларускае мастацтва. Тым больш тыя творы, дзе высмейвалася фанабэрыстасць спаланізаванай беларускай шляхты. Дарэчы будзе згадаць, што "Паўлінка" адразу пасля яе з'яўлення карысталася вялізнай папулярнасцю ў беларусаў – гэта па–сапраўднаму першы беларускі тэатральны шлягер, які і да сёння збірае поўныя залы. А Маладзечаншчына – радзіма Купалы і шматлікіх прататыпаў яго персанажаў.

Першы справа – Пётр Мятла, дзеяч нацыянальна–вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Ён удзельнічаў у стварэнні беларускіх школ ў Заходняй Беларусі. У выніку абмену палітычнымі вязнямі з 1930 года жыў у Савецкім Саюзе. Стаў ахвярай рэпрэсій. Загінуў у лагеры на будаўніцтве Беламорска–Балтыйскага канала.

Другі справа ў другім радзе Андрэй Капуцкі. Ураджэнец Маладзечна. Дзеяч нацыянальна–вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, літаратар. Партыйныя псеўданімы Лёкса, Хвастоў, літаратурны – Язэп Пралеска. Як і Пётр Мятла, выехаў у СССР, дзе быў арыштаваны і расстраляны.

Пастаноўкай кіраваў Пётр Мятла, ролю Паўлінкі выконвала Ж.Шунько, якая на здымку – другая справа, 3–я справа – П.Крук (роля Альжбеты).

Беларушчына ніколі не была справай спакойнай, ні ў пачатку мінулага стагоддзя, ні на трэцім яго дзесятку, ні сёння. Між тым, беларусы пакуль не зніклі. Дзякуючы аддадзеным сваёй радзіме людзям, такім, якіх вы бачыце на гэтым фота.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Альбом–даведнік аб тэатры, кіно, тэлебачанні

**Падзеяй у мастацтвазнаўстве і айчынным кнігавыдавецтве адначасова можна лічыць з'яўленне ў свет альбома-даведніка "Мастакі беларускага тэатра, кіно, тэлебачання (Мінск, РВЧ "Культура і Мастацтва", 2003 год).**

Дагэтуль "энцыклапедыі" падобнага роду ў айчыннай гісторыі сучаснага мастацтва проста не існавала. Магчыма, адным з выразных штуршкоў да выдання даведніка (і адначасова – цікавага альбома рэпрадукцый) паслужыла выстава "Мастакі тэатра, кіно, тэлебачання трэцяму тысячагоддзю", што прайшла ў 2003 годзе ў Мінску ў Палацы мастацтваў. Арганізатары выключнай па сваёй значнасці і прадстаўнічтве імпрэзы – старшыня Беларускага Саюза мастакоў У.Басалыга, супрацоўнікі Міністэрства культуры краіны Б.Лазука, Я.Мішчанка.

І хаця сярод герояў кнігі-энцыклапедыі зусім няшмат нашых землякоў, даведнік мае самае непасрэднае дачыненне да Віленшчыны, усіх яе куточкаў. Мяркуйце самі: у раздзеле пра мастакоў тэлебачання пададзена персаналія (і яго ілюстрацыі) В. Казлова (1934-2003). Гэты творца – аўтар мастацкага афармлення тэлеспектакляў Я.Купалы "Адвечная песня" і "Бандароўна", Я.Шабана "Вячэра" (нагадаем: паэт і драматург **Яўген Шабан** нарадзіўся ў вёсцы Калодзіна Мядзельскага раёна. У розных тэатрах краіны пастаўлены спектаклі па яго п'есах "Сіні снег", "Шрамы", "Чалавек з легенды", "Востраў Алены", "Чахарда").

Асобна прадстаўлена творчасць **Яўгена Волкава** (нарадзіўся ў Мінску ў 1950 годзе). Сярод многіх яго спектакляў – і афарміцельскія праекты ў Мінскім абласным драматычным тэатры, што ў Маладзечне, дзе творца не проста супрацоўнічаў, а стала працаваў.

Яркая фігура ў айчынным тэатральным мастацтве – **Барыс Герлаван**. Як мастак ён аформіў больш за 100 спектакляў, з'яўляецца лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР (1985) і Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1988). Адна з работ Барыса Герлавана – эскізы дэкарацый, самі дэкарацыі да спектакля "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы.

Каштоўнасць новай мастацтвазнаўчай "энцыклапедыі" яшчэ і ў тым, што даведнік з'яўляецца своеасаблівым практыкумам для навучэнцаў мастацкіх школ. І яшчэ раз нагадаем: з'яўляецца першым выданнем падобнага кшталту.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ КАЛЯНДАР

**15 сакавіка. 10 год таму (1994) прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь**, асноўны закон дзяржавы, першая канстытуцыя незалежнай дзяржавы.

**18 сакавіка. 110 год з дня нараджэння ў вёсцы Барані на Астравеччыне Альбіна Стаповіча (Стэповіча)**, грамадска-палітычнага і музычнага дзеяча, публіцыста. Брат Казіміра Сваяка. Вучыўся ў кансерваторыі Монтвіла ў Вільні, Казанскім і Віленскім універсітэтах. Адзін з заснавальнікаў Беларускага земляробча-прамысловага банка ў Вільні, Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, яго сакратар, намеснік старшыні, старшыня Віленскага аддзела, кіраўнік хору пры ім. У 1927–1930 – віцэ-старшыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, выдавец яго органа газеты "Беларуская крыніца". У 1928 – 30 дэпутат (пасол) польскага сейма. Памёр у 1934 годзе.

**18 сакавіка. 10 год таму ў Маладзечне адкрыўся першы нацыянальны фестываль майстроў тэатральнага мастацтва «Маладзечанская сакавіца-1994»**, які стаў традыцыйным. 18, 19 і 20 сакавіка на сцэне Мінскага абласнога драматычнага тэатра і іншых тэатральных пляцоўках Маладзечна гледачы маглі пазнаёміцца з "Вечарам" Дударава, "На залатым возеры" Томпсана, "Добрай ночы, мама!" Нормана і іншымі спектаклямі ўсіх вядучых тэатральных калектываў краіны. Ініцыятарамі фестывалю былі былы старшыня грвыканкама Генадзь Карпенка і драматург Аляксей Дудараў.



**Драматург Аляксей Дудараў, адзін з ініцыятараў тэатральнага фестывалю "Маладзечанская сакавіца".**

Фота fpnp.org

# «На крылы адлятаючай душы...»

**На пераломе 1980-1990-х, лістуючыся з паэтам, празаікам, перакладчыкам, краязнаўцам Пятром Бітэлем (а пасля – у жніўні 1991 года – і сустрэўшыся з ім), не распытаў як след пра яго стасункі з Пухавіцкім краем. Здавалася, увесь ён там – у заходнебеларускім асяроддзі, у Віленскай старонцы. Хаця і нарадзіўся ў Воранаўскім раёне, доўгія гады жыў у валожынскім Вішневе, пасля – у Маладзечне.**

Так склаўся лёс, што Пятро Іванавіч не быў належным чынам ушанаваны пры жыцці. Досыць позна прынялі яго ў пісьменніцкі саюз. Пры жыцці не была выдадзена галоўная праца літаратара – пераклад паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" (Пятро Бітэль быў яшчэ вязнем сталінскага канцлагера, калі падрыхтаваў першы варыянт перакладу). І ўсё ж Пятро Іванавіч не кідаў пяра, актыўна займаўся літаратурнай творчасцю да апошніх дзён свайго жыцця (а памёр ён у кастрычніку 1991-га, на 80-м годзе).

А што ж Пухавіцкі край?.. Па-першае, на самым пачатку 1980-х у Лявонавічах, паблізу Шацка (старажытнае мястэчка, як вядома, месціцца на самай ускраіне Пухавіцкага раёна), пасяліўся Андрэй Бітэль – сын пісьменніка. Працуе па гаспадарчай частцы ў Шацкай бальніцы (гавораць, яе збіраюцца зачыняць). Жонка працуе таксама ў бальніцы. Пабудаваў Андрэй Пятровіч у Лявонавічах і хату. У ёй і гутарым – у доме №14.

Бітэль-малодшы, відавочна, — чалавек не дужа гаваркі. Але ў курсе ўсяго, што датычыць бацькавай творчасці. З радасцю згадваем, што галоўны пераклад Пятра Бітэля ўсё ж пабачыў свет. Найперш – дзякуючы руплівасці Беларускага фонду культуры, дзякуючы грамадскай ініцыятыве літаратуразнаўца Язэпа Янушкевіча. Гаворым з Андрэем Пятровічам пра сённяшняе стаўленне да творчай спадчыны бацькі. У маладзечанскім альманаху "Куфэрак Віленшчыны", які рэдагуе Міхась Казлоўскі, пабачыў свет раман Пятра Бітэля "Развал" (у свой час гэты твор быў адхілены выдавецтвам "Мастацкая літаратура"). Згадваем Віктара Шніпа, паэта, які з самых юных гадоў быў знаёмы з Пятром Бітэлем.

– Сюды, у Лявонавічы, бацька прыязджаў на пачатку 1980-х, – гаворыць Андрэй Пятровіч. – Здаецца, тры ці два разы...

Аглядаем бібліятэку лявонавіцкага Бітэля. У ёй – і кнігі паэта і перакладчыка Пятра Бітэля. Яго кнігі з дарчымі надпісамі аўтару гэтых радкоў – і на маёй кніжнай паліцы. Працытую гэтыя аўтографы. На кнізе Юзафа Ігнацы Крашэўскага "Хата за вёскай" (гэтую аповесць Пятро Іванавіч пераклаў для згаданай ужо "Мастацкай літаратуры"): "Паважанаму Алесю Мікалаевічу Карлюкевічу ў дзень першага знаёмства – з павагай. П.Бітэль. 29.VIII.1991 г.". Наўмысна згадваю і дату. То ж было, лічы, праз тыдзень пасля сумна вядомага путча. На другой кнізе (выдатна ілюстраваныя Арленам Кашкурэвічам арыгінальныя "Паэмы" П.Бітэля): "Паважанаму Алесю Мікалаевічу Карлюкевічу – з пажаданнямі здароўя і творчых поспехаў. П. Бітэль. 28.VIII. 1991 г.". Так, у датах – разыходжанне. Але, здаецца, у адным з выпадкаў – памылка. Гасцяваў я ў Пятра Іванавіча (а дома былі яго жонка, дачка, зяць. Калі ўжо сабраліся абедаць, шукалі Генадзя Каханоўскага. Не знайшлі) у Маладзечне ўсё ж такі 28 жніўня. Сціплыя, лаканічныя аўтографы... Але яны для мяне – самая дарагая памятка. У пэўнай ступені – напамін пра сустрэчу-ўрок. Урок інтэлігентнасці, урок асветніцтва і культуры. Напамін пра багатыя, стрыжнёвыя падзеі ў нацыянальнай гісторыі Беларусі.

...З Пухаўшчынай Пятра Іванавіча яднае яшчэ адзін масток. У ГУЛАГу ў адной з шахтаў Бітэль пазнаёміўся з вязнем са стажам – пісьменнікам Сымонам Хурсікам (нарадзіўся ў пухавіцкай вёсачцы Снусцік).

...Пакідаем Лявонавічы. Фатаграфуемся. Андрэй Пятровіч згадвае, што і ў Шацкай бібліятэцы нядаўна ўшанавалі яго бацьку. А яшчэ раней мне кіраўнік Пухавіцкай ЦБС Ганна Лабастава заўважыла:

– У мінулым годзе Шацкая сельская бібліятэка ладзіла вечарыну, прысвечаную 90-годдзю з дня нараджэння Пятра Бітэля, на якую запрасілі і яго сына. Вельмі цікава расказваў пра бацьку, прынёс кнігі з яго паэзіяй і яго перакладамі...

Развітваемся з Лявонавічамі, якія былі знаёмыя і Пятру Бітэлю. Андрэй Пятровіч са шкадаваннем ізноўку згадвае Вішнева, Маладзечна. Відаць па ўсім, што цягне яго на радзіму... А я ўспамінаю верш Віктара Шніпа "Памяці Пятра Бітэля".

У шэрым, сумным, як няволя, свеце, Калі не быць рабом, то нельга жыць. Лісцё з бяроз кідае ў неба вецер На крылы адлятаючай душы. Там воля, толькі там няма Айчыны, І там спакой, ды там жыцця няма. І ля начы спынілася Сцяжына, І што прайшло, прайшло ўсё ж недарма. І больш няма зямных пакут для цела, А толькі вечнасць сумная крыжа. Душа у Храм да Бога адляцела, І засталася між людзей душа.

Радкі гэтыя паэт Віктар Шніп напісаў у хуткім часе пасля смерці Пятра Бітэля.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ВІНШАВАНКІ

**Агафію Эдуардаўну Чарапові**ч
з 60-годдзем.
Дарагая матулечка, бабуля! Віншуем цябе з юбілеем. Прымі, родная, нашы найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя, жыццёвай стойкасці, захавання заслужанай табою павагі ад людзей і нашай бясконцай любові.

Мамочка наша родная, любимая,
Бабушка славная, незаменимая,
С днём рожденья тебя поздравляем,
Всяческих благ в твоей жизни желаем:
Чтобы ты никогда не болела,
Чтобы ты никогда не старела,
Чтобы вечно была молодой,
Весёлой, доброй и нежной такой!

*З любоўю да цябе дачка і ўнукі.*

**Жанну Квяткевіч**. Любая, дарагая наша дачушка! Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем табе здароўя, шчасця, кахання і сямейнага дабрабыту. *Бацькі.*

**Таццяну Пятроўну Барсукову** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, кахання, поспехаў у працы. *Супрацоўнікі дзіцячай лабараторыі.*

**Аляксандр Субач!** З днём нараджэння! Жадаем шчасця, кахання, сямейнага дабрабыту. Хутчэй выздараўлівай і вяртайся дадому. *Ірына і Маша.*

**Таццяну Свідзінскую** віншуем з днём нараджэння! Заставайся такой жа прыгожай. Шчасця табе і здароўя. *Калегі.*

**Раечку Чайкоўскую** віншую з 45-годдзем! Жадаю здароўя, шчасця, даўгалецця і сямейнага дабрабыту. *Галіна Малец.*

**Наташу Дзеніс**, самую прыгожую, пяшчотную і ласкавую дзяўчыну на свеце, віншую з хуткім заканчэннем працоўнага тыдня. *З каханнем, Руслан.*

**Валянціну Васільеўну Каралёву** віншуем з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Дачка, зяць і ўнукі.*

**Марыну Камель** сардэчна віншуем з днём нараджэння. Моцнага здароўя, шчасця, кахання і сямейнага дабрабыту! *Бацькі, Ірына і Лаліта.*

**Васіля Мікалаевіча Шыбеку** віншуем з днём нараджэння. Здароўя, шчасця, верных сяброў. *З павагай Іосіф і Валянціна Драгуны.*

**Дзмітрыя Равенку** віншую з днём нараджэння. Жадаю шчасця, здароўя, кахання, шанцавання і поспехаў у вучобе. *Брат Валера.*

**Дзмітрыя Равенку** віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, кахання, поспехаў у вучобе. *Сям'я Равенкаў.*

**Дзмітрый Равенка**! Віншую цябе з днём нараджэння. Жадаю шчасця, здароўя, аптымізму і каб збыліся ўсе твае жаданні. *Брат Саша.*

Маладзечанскі турклуб "Пілігрым" віншуе з днём нараджэння **Таццяну Булаву і Таццяну Жыльцову**. Жадае моцнага здароўя, добрага настрою, кахання і цікавых паходаў.

**Іосіф Яблонскі**, віншую цябе з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя. *Дзяніс Жыла.*

■ ТЭХНІЧНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

# З новымі ідэямі

**МАЛАДЗЕЧНА. Падведзеныя вынікі абласнога конкурсу навукова-тэхнічнай творчасці школьнікаў 8—11 класаў, што праходзіў у цэнтры пазашкольнай работы.**

«Каля пяці гадоў такі конкурс не праводзіўся, — сказаў дырэктар конкурсу **Аляксей Васільеў**, — таму ў параўнанні з мінулымі гадамі ўзровень удзельнікаў па некаторых раздзелах знізіўся. Па некаторых раздзелах узровень вырас, але не настолькі, каб гэтым можна было хваліцца».

У камандным заліку Маладзечна заняло трэцяе месца, саступіўшы Слуцку і Салігорску. Пры вызначэнні найлепшых работ, перавага аддавалася новым ідэям, а не добрым копіям тэхнікі. Таму вышэй цаніліся такія работы, як марсаход, ракетны стартавы комплекс, апарат для будаўніцтва хатак на Марсе. Да ўсіх сваіх работ аўтары прыкладалі іх апісанне і чарцяжы.

У асабістым заліку ў намінацыі «Радыёэлектроніка» нашыя землякі занялі ўвесь п'едэстал: на першым месцы — **Вадзім Цюкін** з Маладзечна, на другім — **Андрэй Мацюкевіч** з Маладзечна, на трэцім — **Аляксандр Хвалько** з Вілейкі. У намінацыі «Тэхнічнае мадэляванне» Аляксандр Хвалько таксама стаў прызёрам, заняў другое месца. **Сяргей Сташкевіч** з Вілейкі стаў трэцім у намінацыі «Інфарматыка і вылічальная тэхніка».

Сцяпан Краўчонак з Вілейкі прызёрам не стаў. Ён прывёз на конкурс пажарную рэтра-тэхніку, якой карысталіся ў 19 стагоддзі: ёмістасць для вады, помпу і высоўную вышку для тушэння высокіх будынкаў. «Мне захацелася нагадаць досвед нашых продкаў», — сказаў ён у інтэрв'ю «РГ». Сцяпан займаецца ў гуртку «Тэхнічнае канструяванне» з першага верасня. Гэтыя мадэлі, іх апісанне і чарцяжы ён самастойна зрабіў за паўгода, кіраўнік гуртка **Васіль Ганчар** дапамагаў яму толькі ў пошуках дакументаў.

**Святлана ЦІШКО.**

**Сцяпан Краўчонак з Вілейкі і яго настаўнік Васіль Ганчар на конкурсе навукова-тэхнічнай творчасці прадстаўлялі пажарную тэхніку 19 стагоддзя.**
Фота Святланы ЦІШКО.

## Кінатэатр «Радзіма»

**12-14 сакавіка. Прэм'ера. "Скарб Амазонкі"**, ЗША, прыгоды – у Сеансы: 12 сакавіка – у 17.00, 19.00 і 21.00, 13 і 14 сакавіка – у 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.

**15-21 сакавіка. "Дрэнныя хлопцы-2"**, ЗША, баявік, акрамя асоб да 16 год, 2 серыі – у 18.30 і 21.00.

**Для дзяцей**

**13, 14 сакавіка. "Блізард"**, ЗША-Італія, прыгоды – у 13.00.

**15-19 сакавіка. Прэм'ера. "У пошуках Нэмо"**, анімацыйны фільм – у 10.00, 12.30, 14.30 і 16.30.

Кожную суботу ў 21.00 – дыскатэка.

Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.

Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

## Варым суп «па-навуковаму»

**Заканчэнне.**

Раслінныя прадукты лепш варыць так, каб не даводзілася зліваць адвар, бо адбываюцца вялікія страты бялкоў, тлушчаў, вугляводаў, вітамінаў, мінеральных рэчываў.

Варка мяса, рыбы таксама вядзе да вялікіх страт каштоўных рэчываў, таму адвары мэтазгодна выкарыстоўваць для прыгатавання соусаў, падліваў, супоў.

Чым даўжэй варыцца прадукт, тым, зразумела, больш вывараецца з яго карысных рэчываў, вітамінаў. Як пазбегнуць гэтага? Варыць пад ціскам (у скараварках) ці здрабніць прадукт, каб варыўся хутчэй. Але пры гэтым з-за павелічэння паверхні ўзмацняецца выцягванне пажыўных рэчываў, таму здрабняць прадукты трэба не вельмі дробна. Гародніну лепш варыць у лупінах, папярэдне добра вымыўшы шчотачкай, ці на пары – страты будуць невялікія.

А як наконт смажання? Страты харчовых рэчываў пры смажанні дробнымі кавалачкамі амаль у 2 разы меншыя, чым калі смажыць вялікі кавалак. Трэба добра нагрэць масла ці тлушч на патэльні, тады на прадуктах адразу ўтвараецца ахоўная плёнка, яна будзе перашкаджаць выдзяленню соку, страва атрымаецца больш сочнай і пажыўнай. Не менш важны і выбар тлушчаў для смажання. Часцей за ўсё ён абумоўлены рэцэптурай, а калі ёсць магчымасць выбару, рэкамендавана ўлічваць: сметанковае масла з-за павышанага ўтрымання ў ім бялкоў хутка падгарае і чадзіць, а вось алей і кулінарныя тлушчы амаль не ўтрымліваюць бялкоў і таму не гараць на патэльні. Толькі паўторна іх выкарыстоўваць, як і сметанковае масла, не варта: атрымліваюцца нежаданыя прадукты акіслення тлушчаў.

Калі хочаце прыгатаваць мяса з тонкай скарыначкай, якая не зашкодзіць страваванню, — смажце яго на масле з невялікім дабаўленнем вады (яе трэба наліць на халодную патэльню). Гэты ж эфект пры смажанні рыбы дасць папярэдняя паніроўка яе ў муцэ ці сухарах.

Саліць і рыбу, і мяса трэба толькі перад канцом смажання, бо соль садзейнічае выдзяленню соку, а з ім – каштоўных пажыўных рэчываў.

**Проста МАРЫЯ.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя! Дзякуй **Юрыю Юхневічу** за цікавую задачку, знайсці да яе рашэнне было няпроста. Адказ такі: старэйшаму сыну 9 год, а малодшым — па 2. Спачатку трэба было выпісаць усе магчымыя раскладанні 36 на тры сумножнікі 36= 1*1*36 = 1*2*18=1*3*12=1*4*9=1*6*6 = 2*2*9 = 2*3*6 = 3*3*4. Сумы сумножнікаў гэтых васьмі раскладанняў роўныя адпаведна 38, 21, 16, 14, 13, 13, 11, 10. Другі сябар, ведаючы лік акон дома, а значыць і суму ўзросту, дарэчы, тут на дапамогу прыходзіць мая падказка, што сума лічбаў ліку колькасці акон дома роўная 4 (2*9*2 і 1*6*6), не мог вылічыць узрост сыноў, бо сума ўзросту аднолькавая. Але варыянт 1*6*6 адпадае, бо ў гэтым выпадку ў сям'і не было б старэйшага сына. Застаецца 2*2*9. Адказ на другое заданне такі:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | x | 9 | : | 6 | = | 3 |
| + | | : | | + | | |
| 7 | – | 3 | + | 4 | = | 8 |
| – | | + | | : | | |
| 8 | – | 1 | + | 5 | = | 12 |
| = | | = | | = | | |
| 1 | | 4 | | 2 | | |

З абодвума заданнямі справіліся **Аляксандр Шастоўскі, Дзмітрый Пакладок, Максім Захарыч** з Маладзечна, яны і атрымліваюць білеты ў кіно.

А цяпер новыя заданні.

1. Падзяліце гэты няпоўны (пустая клетачка ў цэнтры) квадрат на чатыры часткі аднолькавай формы і велічыні так, каб у кожнай з іх знаходзілася па 2 адзінкі, двойкі і тройкі.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | 2 | 2 | |
| 1 | | 3 | | | 1 | |
| | 3 | 1 | | 1 | | |
| 2 | | 3 | | | 1 | 3 |
| 3 | | 3 | 2 | 1 | 1 | 2 |
| 3 | | 2 | | | | |
| | | | 2 | 2 | | 3 |

2. Задачка са школьнага падручніка. Сэнс задання ў тым, каб, выкарыстоўваючы знакі матэматычных дзеянняў, а пры неабходнасці і дужкі, запісаць лікі 0, 1, 2, 3, 4, 5, 6, 8, 9, 10 чатырма двойкамі.

Чакаю вашых адказаў да 22 сакавіка ўключна. Будзе разыграна 5 білетаў.

Чакаю ад вас лістоў з цікавымі задачкамі, рэбусамі, крыжаванкамі, магчыма, менавіта яны з'явяцца ў нашых наступных выпусках.

Чытачоў азадачвала
**Аксана КУЛЕЎНІЧ.**

■ **ІМЯНІНЫ**

**12 сакавіка Праваслаўныя**: Пракопа, Ціта. **Каталіцкія**: Алоіза, Рыгора, Максіміляна.
**13 сакавіка Праваслаўныя**: Марыны, Васіля, Мікалая, Несцера. **Каталіцкія**: Бажэны, Хрысціны.
**14 сакавіка Праваслаўныя**: Антаніны, Еўдакіі, Антона, Несцера. **Каталіцкія**: Мацільды, Лазара, Лявона.
**15 сакавіка Праваслаўныя**: Агафона, Арсеня, Багдана, Фядота. **Каталіцкія**: Клеменса.
**16 сакавіка Праваслаўныя**: Зянона, Заіла. **Каталіцкія**: Ізабэлы, Гіляра, Рэната.
**17 сакавіка Праваслаўныя**: Ульяны, Васіля, Вячаслава, Герасіма, Данілы, Паўла, Рыгора, Якава. **Каталіцкія**: Збігнева, Патрыка, Яна.
**18 сакавіка Праваслаўныя**: Андрыяна, Анісія, Давыда, Конана, Марка, Фёдара, Яўлампія. **Каталіцкія**: Кірыла, Эдуарда.

## Купон 11

Рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

**Звярніце ўвагу**

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

## ЗНАЁМСТВЫ

Жанчына, добрая, пяшчотная, сімпатычная, 48/160/62, падорыць каханне і турботу прыемнаму мужчыну з жыллём. 222310, Маладзечна-4, п/у №508.

Мужчына, 38/164, для стварэння сям'і пазнаёміцца з жанчынай 30-40- гадоў без шкодных звычак. Т. у Мядзеле 36347 (Алег).

Мужчына, 41/162/60, пазнаёміцца з добрай гаспадарлівай жанчынай, можна з дзіцем. 222410, Вілейка-2, п/п МС 0315241.

Мужчына, сімпатычны, уважлівы, надзейны, 47/176/78, шукае сімпатычную, нядрэнную, пачуццёвую спадарожніцу жыцця. 222310, Маладзечна-7, п/п МС 0190340.

Прыемная жанчына, 49/165/70, пазнаёміцца з прыемным мужчынам для сяброўства. 222310, Маладзечна-7, п/п МС 0823657.

Мужчына-інвалід пазнаёміцца з дзяўчынай для стварэння сям'і. Падрабязнасці ў лісце. 222310, Маладзечна-7, п/п МС 0487030.

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАМ

• Аўдзі-80, 1987-88 г.в., 1,8Б, 2300 у.а., торг. Т. у Вілейцы 57293, (8-029) 7792380.
• Аўдзі-80 В-4, 1994 г.в., 1,9 TDI, зялёны металік, э/пакет, люк, літыя дыскі, магнітола. Т. у Вілейцы 53090.
• Аўдзі-80, 1988 г.в., 1,6Д, стальны металік, 2650 у.а. Т. (8-029) 6804325.
• Аўдзі-100, 1978 г.в., 1,8 газ-бензін, э/пад'ёмнікі, ц/з, добры стан, 800 у.а. Т. у Маладзечне 75943 (Вася).
• Аўдзі-100, 1989 г.в., 2,0і, ц/з, люк, г/у, 3000 у.а. Т. у Астраўцы 38418.
• Аўдзі-100, 1989 г.в., 2,3Е, цёмна-сіняя, 3200 у.а. Т. (8-029) 6713294.
• А/м пасля 1990 г., з Германіі, нізкія цэны, хутка. Т. (8-029) 6417853.
• БМВ-520і, 1988 г.в., 2,0Б, ц/вішня, э/пакет, абагрэў люстэркаў, люк, музыка, бэжавы салон, выдатны стан, 3500 у.а. Т. (8-029) 6528646.
• БМВ-520, 1983 г.в., нядорага. Т. у Вілейцы 58028, (8-029) 7071995.
• ВАЗ-2101, капрамонт рухавіка, кузава 2004 г., 600 у.а., торг. Т. у Вілейцы 57506, (8-029) 7699521.
• ВАЗ-2101, 1980 г.в., цана дагаворная ці памяняю на гараж. Т. у Вілейцы 51477, (8-029) 6858936.
• ВАЗ-21013, 1981 г.в., 300 у.а. Т. у Вілейцы 46374.
• **ВАЗ-2104**, 1994 г.в., чырвоны. Т. у Маладзечне 77973.
• ВАЗ-21063, 1987 г.в., выдатны стан; Масквіч-2140, 1987 г.в. на запчасткі. Т. у Вілейцы 53523.
• ВАЗ-21063. Т. (8-029) 7611553, (8-029) 7611564.
• ВАЗ-21093, 1995 г.в. Т. у Вілейцы 51335.
• ВАЗ-21093, 1992 г.в., 1500 см³, 5КПП, спелая вішня, добры стан. Т. у Вілейцы 32349.
• ВАЗ-21093, аб. 1,5, 5КПП, сполеры, 1900 у.а., магчымы абмен на іншамарку. Т. у Вілейцы 58188.
• Мерседэс-200Д, 1981 г.в., жоўты, добры стан. Т. (8-029) 6396374.
• Нісан-522 у добрым стане, устаноўлены рухавік і КПП ГАЗ-24. Т. у Вілейцы 59232.
• Нісан Сані, 1993 г.в., 2 літры, дызель. Т. у Вілейцы 73257.
• Опель Амегу, 1994 г.в., 2,0, дыскі, сігналізацыя, вэбаста, універсал. Т. у Маладзечне 39259, (8029) 6339259.
• Опель Вектру, мона. Тэрмінова. Т. (8-029) 7763347.
• Опель Вектру, 1997 г.в., аварыйны зад, 4800 у.а. Т. (8-029) 6247628.
• Пэжо-405 Комбі Д, 1991 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 6481386.
• Пэжо-605 SRI, 1991 г.в., 2,0, 2900 у.а., без торга. Т. (8-029) 7791296.
• Рэно-19, 1992 г.в., у новым кузаве, з Германіі, без прабегу па РБ. Т. у Маладзечне 34601.
• Рэно Кліа, 1992 г.в., 1,2 бензін, зялёны, з Германіі. Т. у Маладзечне 90621.
• Рэно Кліа, 1992 г.в., 1,2Б, 5-дзверны, толькі з Германіі. Т. у Маладзечне 41613.
• Рэно Кліа, 1991-92 г.в., 1,2Б, нядаўна ў РБ. Т. у Маладзечне 33980, (8-029) 7663552.
• Рэно Шамаду, 1994 г.в., 1,8 мона, бар. мет., 2 V airbag, з/ш, ц/з, імабілайзер, з Германіі. Т. у Вілейцы 57413.
• Сеат Кардоба, 1995 г.в., 1,4Б, мона, шэра-зялёны. Т. (8-029) 7681226.
• Сеат Таледу, 1993 г.в., 1,6 мона, 2400 у.а., торг. Т. у Маладзечне 40645.
• Таёту Каролу, 1993 г.в., седан, АКП, 1,6Е, 16-клапанаў, магнітола. Т. (8-029) 7638023.
• Таёту Каролу, 1988 г.в., 1,6Б, ц/з, сігналізацыя, э/люк, э/люстэркі. Т. у Маладзечне 68067, (8-029) 6564137.
• УАЗ-469 – 2 шт, 600 у.а.; ВАЗ-2108. Т. (8-029) 7755938.
• УАЗ-3303, бартавы, 1986 г.в., ТА пройдзены, 850 у.а. Т. у Заслаўе (017) 5441429, (8-029) 6181174, (8-029) 7617884
• ФВ Гольф, 1984 г.в., 1,6Д, 5КПП, выдатны стан. Т. у Вілейцы 55939 (пасля 18.00).
• ФВ Гольф, 1986 г.в., 1,6Д; Форд Скорпіё, 1990 г.в., 2,5 ТД, усе навароты. Т. у Вілейцы 56378, (8-029) 7655905.
• ФВ Джэту-2, 1985 г.в., 1,6Д, выдатны стан, цюнінг, 1400 у.а., торг. Т. у Вілейцы 57298.
• ФВ Джэту, 1988-89 г.в.; ФВ Пасат, 1990 г.в., TDI; Форд Эскорт, 1994 г.в. Т. у Вілейцы 51907, (8-029) 6248903.
• ФВ LT-35, Г/Б, грузавы; гараж ГБК-2. Т. у Вілейцы 51773 (пасля 18.00).
• ФВ Пасат, 1985 г.в. Т. (8-029) 7679411.
• ФВ Пасат В-3, 1991 г.в., 1,8Б. Т. у Вілейцы 32835.
• ФВ Пасат В-3, 1989 г.в., 1,8Б, універсал, добры стан. Т. у Вілейцы 58462, (8-029) 4011024.
• ФВ Пасат, 1982 г.в., 1,6Д, добры стан; з/ч "Пасат В-3". Т. у Маладзечне 70429, (8-029) 7629975.
• ФВ Пасат, 1986 г.в., 1,8Б, універсал, 4х4. Т. у Вілейцы 51867.
• ФВ Пасат, 1993 г.в., з Германіі. Т. у Вілейцы 33277.
• ФВ Пасат, 1992 г.в., 1,8 мона, універсал. Т. у Маладзечне 39259, (8029) 6339259.
• ФВ Транспарцёр грузапасажырскі, 1990 г.в., 1,6 ТД, чырвоны, цана дагаворная. Т. у Вілейцы (8-029) 7508296.
• ФВ Транспарцёр, 1988 г.в., 1,6Д, 8+1 месцаў; ФВ Джэту, 1985 г.в., 1,6Д, 1350 у.а. Т. (8-029) 7095821.
• Фіят Крому, 1992 г.в., 2,0 ТДІ. Т. у Маладзечне 69682.
• Фіят Тэмпру, 1993 г.в., 1,6 газ-бензін, ц/з, г/у, л/д, 6 мес. у РБ. Т. у Маладзечне 36720, (8-029) 7087843.
• Фіят Тыпу, 1992 г.в., 1,4 мона-упрыск, 1650 у.а. Т. (8-029) 6206636.
• Форд Сіеру, 1985 г.в., 2,3Д, хэтчбэк, новы АКБ, радыятар, добры стан, 1350 у.а. Т. у Вілейцы 33273.
• Форд Сіеру, 1985 г.в., 1,6Б, 850 у.а. Т. у Вілейцы 57768, (8-029) 7674127.
• Форд Сіеру, 1985 г.в., 1,8Б, тэрмінова. Т. у Вілейцы 76550.
• Форд Скорпіё, 1986 г.в., газ-бензін, АБС, ц/з, ш/п, цёмна-сіні, добры стан, 1400 у.а., тэрмінова. Т. (8-029) 7765956.
• Форд Скорпіё, 1986 г.в., 2,5Д, г/у, ц/з, ABS, б/к, а/м, 1100 у.а., торг. Т. (8-029) 7638023.
• Форд Фіесту, 1991 г.в., 1,1Б на запчасткі. Т. у Мядзеле 38680.
• Форд Фіесту, 1993-94 г.в., 5-дзверны, 1,3Б, месяц з Германіі. Т. (8-029) 7768891.
• Форд Эскорт, 1989 г.в., універсал, 1,6і. Т. у Вілейцы 58254.
• Форд Эскорт, 1990-91 г.в., 1,4 мона, 1700 у.а., торг. Т. (8029) 7660938.
• Форд Эскорт, 1987 г.в. (пераходны), 1,6 дызель па запчастках. Т. (8-029) 7611553, (8-029) 7611564.
• Форд Эскорт, 1985 г.в., 1,6Д. Т. у Маладзечне 98093, (8-029) 7090797.
• Форд Эскорт, 1993-94 г.в., універсал, 1,6і, ц/з, ABS, 1 п/б, 2350 у.а., торг. Т. у Маладзечне 37998
• М/а ДАФ, 1992 г.в., 2,5 ТД, 6+1, спарка, грузапад'ёмнасць 1,5 т, кузаў, тэнт, 3500 у.а., торг. Т. у Маладзечне 37205, 76765.
• М/а Мерседэс Віта, 1996 г.в., белы, аб'ём рухавіка 2,3. Т. у Маладзечне 69303, (8-029) 7616137, (8-029) 7669303.







• М/а Пэжо J-5, 1991 г.в., 2,5Д, высокі, доўгі, грузавы, белы, добры стан, муз. CD "SONY", новая гума, кенгурацік. Т. у Вілейцы 35130, (8-029) 7792872.
• М/а ФВ Транспарцёр, 1991 г.в., грузавы, толькі з Германіі. Т. (8-029) 6254492.

**ІНШАЕ**
• Крылы новыя да "Масквіча-412". Т. у Вілейцы 33506.
• Рухавік ФВ, 1,6 ТД па з/ч. Т. у Маладзечне 29379.

## КУПЛЮ

• Аварыйную іншамарку. Т. (8-029) 6210173.
• ВАЗ, Аўдзі, ФВ. Т. у Вілейцы 33579.
• Прычэп "Зубраня" у добрым стане; вагі гандлёвыя. Т. у Вілейцы 45350, 45341 (увечары).
• Прычэп да л/аўтамабіля; свіней, бычкоў, кароў. Т. у Маладзечне 77200, 76864.
• Рухавік ВАЗ, 1,6. Т. у Маладзечне 67814, (8-029) 6530590.
• Рухавік "Масквіч" у любым стане. Т. (8-029) 6462185.

## ПАСЛУГІ

• Грузаперавозкі МАЗ-3553, 8 т, тэнт, РБ. Ліц. АА 1-8574 да 18.05.2008 г. Т. у Вілейцы 62218.
• М/а, 2 т+2 пасаж., форма аплаты любая, ліцэнзія. Т. у Маладзечне 52325, (8-029) 7696760.

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАМ

• 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Т. (8-029) 7508823, (8-029) 7756151.
• 3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, раён станказавода, 10700 у.а. Т. (8-029) 7738294.
• Дачу ў в. Лазавец (4-ы км). Нядорага. Тэрмінова. Ёсць фотаздымак. Т. у Маладзечне 65496.
• Дом у в. Выдрычы (магчымы перавоз). Т. у Маладзечне 96666.
• Дом у в. Савіна, Вілейскі р-н, цана дагаворная. Т. у Вілейцы 57326.
• Дом у в. Сакавічы, 10 км ад Вілейкі. Ёсць склеп, павець, побач лес. Т. (8-029) 6254492.
• Дом у Вілейскім р-не, в. Мацькаўцы. Трактар. Т. у Мінску (017) 2704060.
• Дом 120 м², 0,24 га, вада, тэлефон, ацяпленне, гараж на 2 а/м, 1,5 км ад Радашкавічаў, в. Дзікшняны, 9500 у.а., торг. Т. у Мінску (017) 2717730.
• Дом на Вілейскім вадасховішчы. Т. у Маладзечне 79063, 73922, (8-029) 6571706.
• Дом у цэнтры горада. Т. у Вілейцы 32472 (пасля 17.00).
• Дом у Вілейскім раёне, ходзіць гарадскі аўтобус. Т. у Маладзечне 65716.
• Дом у в. Куранец, Вілейскі р-н, цана дагаворная. Т. у Маладзечне 53075.
• Дом 2-павярховы. Т. у Вілейцы 33170 (пасля 19.00).
• Кватэру ў Вілейцы. Т. у Вілейцы 51773 (пасля 18.00).
• **КІЁСК У ЦЭНТРЫ** Маладзечна, Т. у Маладзечне 32273.
• Кіёск гандлёвы па вул. Чапаева (з-д "Зеніт"), плошча 5 м². Тэрмінова. Нядорага. Т. у Вілейцы 59232.

## КУПЛЮ

• 2- ці 3-пакаёвую кватэру. Т. у Вілейцы 33663, (8-029) 7091526, (8-029) 7686690.
• Гараж ГБК №3. Т. у Вілейцы 51897 (пасля 18.00).
• Дом у Маладзечне ці прыгарадзе. Т. у Маладзечне 21027.
• Дом добраўпарадкаваны ў Вілейцы. Т. у Вілейцы 56706, 35195 (Павел).
• Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 7612851.







• Дом добры у Вілейцы. Т. у Мінску (017) 2910374.
• Кватэру ці дом. Т. у Вілейцы 51355.

## МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру на дом у Вілейцы. Т. у Вілейцы 55996, (8-029) 6855996.
• 3-пакаёвую кватэру ў р-не Макаўе (гараж, участак) на 3- ці 2-пакаёвую кватэру ў горадзе. Т. у Вілейцы 53162.
• Кватэру ў Маладзечне на Мінск. Прадам "Альфа Рамэо-75". Т. у Маладзечне 62008.
• Мяняю з даплатай на кватэру ў Маладзечне, Вілейцы дом з гаспабудовамі ў в. Куранец ці прадам. Т. у Маладзечне 32320, (8-029) 6370245.

## ЗДАМ

• **ЗДАМ У АРЭНДУ МАГАЗІН**. Т. (8-029) 7092953.
• **ЗДАМ У АРЭНДУ** гандлёвы навес у Маладзечне. Т. у Маладзечне 32273.

## НАЙМУ

• Маладая сям'я нойме кватэру ў Маладзечне. Т. (8-029) 6396590.

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• **"МУЛЕН РУЖ"** пракат вясельнай і вячэрняй моды. Вэлюм у падарунак. Вяночкі, ручнікі. Т. у Маладзечне 39293, (8-029) 6339293.
• Вясельны салон "Раксалана". Новая калекцыя. Гасцініца "Маладзечна", 1 паверх. Т. (8-029) 7654640.
• Вясельны **ПРАКАТ ЗОІ ІВАНАЎНЫ** прапануе вялікі выбар вясельных і вячэрніх сукенак. Сукенка для маці нявесты і вясельныя аксесуары – бясплатна. Т. у Маладзечне 50825.
• Вясельна-вячэрні салон "Кацярына" прапануе ўбранні. Маладзечна, вул. Драздовіча, 1, тэл.: 54587, (8-029) 6307319.
• Вясельна-вячэрні **САЛОН "МІЛЭДЗІ"**. Вялікі выбар убранняў і аксесуараў. Маладзечна, вул. Буйніцкага, 30 (р-н СШ №7); тэл. 77382, (8-029) 7729148.
• Пракат прапануе **НОВУЮ КАЛЕКЦЫЮ** вясельных сукенак. Т. у Маладзечне 62714.
• "Лілія" прапануе вясельныя і вячэрнія ўборы. Маладзечна, вул. Валынца, 9. Тэл.: 74812, (8-029) 6418594.

## ФОТАЗДЫМКА

• Лічбавыя фатаграфіі для школьнікаў. Т. у Маладзечне 31414, (8-029) 7731414.

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Пракат гульнявых прыставак "Sony PS", "Sega DC", пракат відэамагнітафона, электрадрылі. Дастаўка. Т. у Маладзечне 39379.
• Прыгледжу нейкі час за вашым сабакам. Т. (8-029) 7697231.
• Рамонт і аздабленне кватэр. Т. (8-029) 7612722.
• Рамонт тэлевізараў. Купім на з/ч тэлевізары, маніторы, акрамя лямпавых. Т. у Маладзечне 34740, (8-029) 7693729.
• Рамонт халадзільнікаў. Выезд на дом. Гарантыя. Пасв. №690259548 ад 24.09.2003 г. Т. у Вілейцы 54869, 51656.
• Рамонт швейных, скарняжных машын, аверлокаў. Т. у Маладзечне 64737.
• Фундамент, кладка, зруб, дах, аддзелка. Т. у Маладзечне 34961, (8-029) 7681948.





• Пракат гульнявых прыставак «SONY PS». Вялікі выбар дыскаў, дастаўка. Т. у Маладзечне 65018, 66211

# РОЗНАЕ

## ПРАДАМ

**БУД. МАТЭРЫЯЛЫ**
• Блокі г/с. Смаргонь. Дровы. Дастаўка. Т. у Маладзечне 66534, (8-029) 6570984.
• Ліст ацынкаваны. Форма аплаты любая. Т. (8-029) 6650588.

**СЕЛЬГАСТЭХНІКУ**
• Трактар Т-16МГ, 1987 г.в. Т. (8-029) 6713294.
• Трактар МТЗ-50, рухавік Д 240, МТЗ-80. Т. (8-029) 6434876.

**БЫТАВУЮ ТЭХНІКУ**
• Аверлок, швейную машыну. Гарантыя. Дастаўка. Т. у Маладзечне 64737.
• Газавую пліту "Брэст", мадэль 1457, 4-камфорачныя з духоўкай, у добрым стане, нядорага. Т. у Вілейцы 57040.
• Каляровы тэлевізар "SONY Трынітрон", 72 см, новы. Т. (8-029) 6551749.
• Маразільнік "Мінск-131". Танна. Т. у Вілейцы 55794.
• Музычны цэнтр, добры, нядорага. Т. (8-029) 7609041.
• П/М "Ака" новую; швейную машыну "Падольскую" новую, шматапэрацыйную. Т. у Вілейцы 55754.
• Халадзільнік б/у для дачы. Т. (8-029) 7601129.

**МЭБЛЮ**
• **МЭБЛЮ РБ**. Матрацы. Дастаўка. Ліц. № 260 РВК да 23.08.2007 г. Т. у Вілейцы 53829, (8-029) 6313007.
• **МЭБЛЯ РБ ПАД ЗАКАЗ**. Кухні, шафы-купэ па індывідуальным праекце. У тым ліку крэдыт 10,5% гадавых. Дастаўка. Зборка. Т. у Вілейцы 56382, (8-029) 6656382. Ліц. №245 Вілейскага РВК 6.08.2002-6.08.2007. Ліц. №05264 БДААБАН 14.10.2002-14.10.2007.
• **ПАДЛЕТКАВЫ ЛОЖАК**. Т. у Маладзечне 62631.
• Секцыю "Амега", стол-кнігу, спальню б/у, у добрым стане. Т. у Вілейцы 57849.
• Секцыю ("Заслаўе", "Вяча"), секцыю палір., спальню, мяккі куток (канапу-ложк+2 крэслы), шафы 2- і 3-дзверныя з антрэсолямі, ложкі 1,5- і 2-спальныя, кухню – усё у добрым стане, нядорага. Т. у Вілейцы 57040.
• Сталы: часопісны, кухонны; халадзільнік "Саратаў"; тумбу для пасцелі; веласіпед і інш. – б/у, танна. Т. у Вілейцы 33215.
• Кухню, дзіцячую каляску (б/у). Т. у Маладзечне 34989.

**ЖЫВЕЛУ**
• Шчаняты сярэднеазіяцкай аўчаркі з радаслоўнай. Т. у Мядзеле 50661.
• Шчанятаў ратвейлера з моцным касцяком. Радаслоўныя ад выдатных вытворцаў. Т. у Маладзечне 68060.

**ІНШАЕ**
• Агарод 10 сотак, у в. Івонцавічы ля Вілейкі. Т. (8-029) 6512036.
• **АКСЕСУАРЫ ДА МАБІЛЬНЫХ**: акумулятары, чахлы, зараднікі, інструкцыя на рускай мове. Т. (8-029) 6105705.
• Ванну чыгунную, стальную 1,5 і 1,7 м; аксесуары да мабільнага тэлефона. Т. (8-029) 6271629.
• Відэакасеты, папулярныя, 600 шт, нядорага. Т. у Маладзечне 34026.
• **ЖАЛЮЗІ** вертыкальныя, гарызантальныя, устаноўка, абмер бясплатна. Пасв. №600311853. Т. у Вілейцы 59223, (8-029) 6659223.
• Камплект гукаузмацняльнай апаратуры "Sound King"; узмацняльнік 2х500 Вт; акустыка 2 шт па 600 Вт; мікшарны пульт "Behringer 1204-Pro". Т. (8-029) 6435305.
• Камп'ютэр новы і б/у. Гарантыя. Куплю няспраўныя. Дапамагу ў рамонце. Т. (8-029) 7741956.
• **КАЦЁЛ АЦЯПЛЯЛЬНЫ** К-С-ТГ-12,5А (газ, цвёрдае паліва). Т. (8-029) 6319537.
• Кацёл для лазні універсальны. Т. (8-029) 6881291.



• **МАБІЛЬНЫ** тэлефон ад 35 у.а. Т. (8-029) 7602061.
• **МАБІЛЬНЫ ТЭЛЕФОН** "Алкатэль", "Матарола" і інш. ад 70 у.а. Новыя. Т. у Маладзечне (8-029) 6105705.
• Мабільны тэлефон ад 30 у.а. Т. (8-029) 7755938.
• Муку (Скідзель) з трэцікале па нізкіх цэнах. Т. у Маладзечне 63924, (8-029) 7029063.
• **ПОМНІКІ** з мармуровай крошкі. Маладзечна, вул. Бухаўшчына, 58 (каля Палаца культуры). Т. у Маладзечне 70656, (8-029) 6221376.
• **СЕНА 120 РУБ./КГ**. Т. у Маладзечне 50255.
• **СОТАВЫ ТЭЛЕФОН**. Т. (8-029) 6849657.
• **СПАДАРОЖНІКАВАЕ ТБ**. Пашыраныя магчымасці. Да 1000 каналаў. Т. у Вілейцы 53924, (8-029) 7792311.
• Спадарожнікавую антэну ("Сірыус", "Экспрэс"); тэлевізар "SONY", 72 см, 230 у.а. Т. у Вілейцы 57799, (8-029) 7037799.
• **СПАДАРОЖНІКАВУЮ АНТЭНУ**. Даступныя цэны. Ідэальная якасць. Т. (8-029) 7628477.
• **СПАДАРОЖНІКАВАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ**. Шмат рускамоўных каналаў, спорт, мультфільмы, відэакліпы. Т. (8-029) 7627898.
• Ф/г прадае буракі сталовыя, моркву. Валожынскі раён, Багданаўскі с/с, в. Дзесятнікі, д. 55. Т. у Маладзечне 39358 (пасля 17.00).
• **ШКЛОПАКЕТЫ НЯМЕЦКІЯ (ВОКНЫ ПВХ)**. Нядорага. Устаноўка. Жалюзі. Сайдынг ПВХ. Сценавыя панэлі ПВХ. Т. (8-029) 6850232, (8-029) 7030232.

## КУПЛЮ

• Трактар, можна не на ходу. Т. у Вілейцы 32993.
• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ**, грамафоны, **АБРАЗЫ, МЭБЛЮ**, фарфор і іншыя старадаўнія рэчы. Т. у Маладзечне 65542, (8-029) 6564854.
• **АНТЫКВАРЫЯТ**, манеты, значкі. Т. (8-029) 7602061.
• Дошку, брус, прафнасціл, блокі г/с. Т. (8-029) 6291938.
• Дошку н/а 50 ку. Любой пароды і якасці. Т. (8-029) 6570984.
• Закупаем свіней, цялят. Пасв. №600332376 ад 20.08.2002 г. Т. у Вілейцы 32844.
• **КАБАНА** жывой вагой. Т. у Маладзечне 36522.
• Карову, быка. Т. у Вілейцы 59223, (8-029) 6359997.
• **МАНЕТЫ, ЗНАКІ**, медалі, фарфор, гадзіннікі і інш. старадаўнія рэчы. Т. у Маладзечне 67397, (8-029) 7693157.
• Пральную машыну 60/45. Бакавая закрузка. Т. у Вілейцы 55794.
• **СОТАВЫ** тэлефон няспраўны ці б/у. Т. (8-029) 7764214.
• **ЧЭКІ "ЖЫЛЛЁ"**. Т. у Маладзечне 34979.

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Запрашаюцца ў Мінск будаўнікі і рабочыя ўсіх спецыяльнасцяў. Дарожнікі, машыністы, вадзіцелі, швачкі. Жыллё і зарплата гарантуецца. Т. (8-029) 7789178.
• Маскоўскай будаўнічай арганізацыі патрабуюцца рабочыя будаўнічых спецыяльнасцяў, рознарабочыя. Даецца жыллё, харчаванне, рэгістрацыя. Ліц. №394, СТК ад 14.08.2000 г. Т. (8-029) 6252560.
• Муляры (каменщики), цесляры (плотники). Т. у Маладзечне 52171.
• **FABERLIC** – унікальная кіслародная касметыка, рэальны заробак, высокі попыт, навучанне. Т. у Мінску (017) 2747627.

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Вадзіцель (В, С, Д) шукае работу. Т. у Вілейцы 59606.

**Маладзечанскі турклуб "Пілігрым" выказвае шчырае спачуванне Алене Верабей і яе блізкім з прычыны заўчаснай смерці бацькі.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Колькі абыдзецеся без гарачай вады?



**Наталля Цярэшка, загадчыца фельчарска-акушэрскага пункта:**

— Шмат. Абы было на чым падагрэць. Гарачую ваду можа замяніць лазня. Увогуле ваду не замяніць нішто.



**Эдуард Баланчук, праваабаронца:**

— Мяне хапае менш, чым на суткі. Гарачая вада — гэта звычка сучаснага жыцця. Калі ж прытрымлівацца прымаўкі «Панкі не мыюцца, толькі чэшуцца», то жыць без гарачай вады можна. Нармалёвы чалавек не абыдзецца без яе ніводнага дня.



**Вольга Новікава, мастачка:**

— Ніколькі. Я люблю камфорт. Хаця раней жыла без гарачай вады і ведаю, як гэта цяжка. І цяпер летам так жыву. Падагрэў вады займае шмат часу.



**Леанід Кузняцоў, намеснік дырэктара па цеплазабеспячэнні электрасетак:**

— Пажадана як мага менш. Але пражыць можна. У мяне ў дзяцінстве не было яе. Раней шмат хто так жыў. Сённяшні свет цывілізаваны, і яна неабходная. Нагогул вада — гэта аснова жыцця.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ НАДВОР'Е

| Мінск | 13.3 | 14.3 | 15.3 | 16.3 |
|---|---|---|---|---|
| **ападкі** (на працягу сутак) | | | | |
| **тэмпература**,°C днём | -1 | 0 | 0 | +1 |
| ноччу | -6 | -4 | -2 | -2 |
| **атмасферны ціск**, мм | 756 | 756 | 754 | 753 |
| **хуткасць ветру**, м/сек | 1 | 2 | 2 | 4 |

| Вільня | 13.3 | 14.3 | 15.3 | 16.3 |
|---|---|---|---|---|
| **ападкі** (на працягу сутак) | | | | |
| **тэмпература**,°C днём | -2 | -1 | 0 | +1 |
| ноччу | -7 | -4 | -1 | -1 |
| **атмасферны ціск**, мм | 763 | 761 | 760 | 758 |
| **хуткасць ветру**, м/сек | 2 | 2 | 3 | 4 |

## Чытайце праз тыдзень:

- **У адной з маладзечанскіх лазняў выдзелены спецыяльны час і спецыяльная кабіна для мыцця бамжоў. Пасля мыцця яны могуць разлічваць на бясплатнае споднае і порткі. Але за час існавання гэтай паслугі ёй скарысталіся толькі аднойчы. Чытайце матэрыял Сяргея Зянько аб маладзечанскіх лазнях.**

## Гараскоп 15 – 21 сакавіка



**Авен (21.03–20.04)**

Матэрыяльная сфера будзе ў цэнтры ўвагі. Ваша ініцыятыва ў гэтым кірунку будзе дасягаць мэты. Ад кіраўніцтва можа паступіць цікавая прапанова, ці начальства па вартасці ацэніць вашу работу і вырашыць павысіць заработную плату. Магчыма, знаёмства з цікавымі людзьмі, можна сустрэць сваю другую палавіну. Замужнія і жанатыя акунуцца ў свет кахання і рамантыкі.



**Цялец (21.04–21.05)**

У гэтыя дні ў вашых душах наступіць мір і спакой. Да вас прыйдзе адчуванне камфорту, і вы будзеце гатовыя падзяліцца гэтым пачуццём з навакольнымі. Ваша прывабнасць стане найбольш бачна, і з першым вясеннім цяплом вы будзеце прыцягваць позіркі навакольных і атрымліваць камплімэнты з іх боку. Магчыма, вы ўспомніце аб старых сябрах і захочаце з імі сустрэцца.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Лепш за ўсё выкарыстаць гэты перыяд для прафесійнага росту і кар'еры. Прыйшоў час праявіць максімальную актыўнасць ў дасягненні мэтаў. Гэта запатрабуе ад вас мабільнасці і энергетычнага напружання. Падтрымку можна чакаць ад тайных заступнікаў і партнёраў, у тым ліку ад мужа ці жонкі. З кіраўніцтвам і аўтарытэтнымі людзьмі заўжды будзьце карэктнымі.



**Рак (22.06–23.07)**

Цяпер вы асабліва прыцягваеце ўвагу навакольных. Рэкамендуецца заняцца знешнім выглядам, змяніць імідж. Можа з'явіцца схільнасць да забаў, рамантычных і любоўных сувязяў. Але не перастарайцеся. Празмернае самалюбаванне, капрызы, разгулы могуць прывесці да рознагалоссяў з каханымі, пагаршэння здароўя. Вашы недахопы цяпер будуць асабліва бачны.



**Леў (24.07–23.08)**

У гэтыя дні ў вас актывізуюцца разумовыя здольнасці. Натхненне наведае вас. Вы з лёгкасцю зможаце вырашыць заблытаныя рабочыя справы, сумясціць несумяшчальнае і выбраць аптымальна правільнае рашэнне. Ваш мозг стане падобным да камп'ютэра, які вылічвае любыя камбінацыі. Верагодна, таму ў вольны час вы аддаеце перавагу гульні ў шахматы і гульні з інтэлектуальным трэнінгам.



**Дзева (24.08–23.09)**

Ключом для разумення ўласнай асобы ў гэты час будзе ваш партнёр, адносіны з якім могуць стаць вельмі глыбокімі. Гарманічныя адносіны са спадарожнікам жыцця дапамогуць вашым прафесійным дасягненням, кар'ернаму росту. Магчымы службовы раман. Можа з'явіцца прыліў сіл, упэўненасць у сабе. Вы будзеце ўпэўненыя і ў дапамозе і падтрымцы сяброў.



**Шалі (24.09–23.10)**

З'явіцца жаданне змяніць адносіны з навакольнымі, з раднёй. Падзеі гэтых дзён раскрыюць перад вамі недасканаласць гэтых узаемаадносінаў. Гэта можа пацягнуць за сабой крытычныя сітуацыі, такія, як сур'ёзны канфлікт з далейшым расставаннем. Вы зможаце вырашыць праблему, калі глянеце на сябе збоку, знойдзеце тыя якасці, якія згубна ўплываюць на адносіны і пастараецеся трансфармаваць іх у дабрадзейнасць.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Разам з першымі вясеннімі промнямі сонца вы адчуеце сугучнасць з прыродай, якая абуджаецца пасля зімы. Скарпіёнам наогул з цяжкасцю ўдаецца расслабіцца, таму не ўпускайце такой магчымасці і дазвольце сабе акунуцца ў свет шчасця, радасці і задавальнення. Вырасце ўпэўненасць у сабе і актывізуецца жыццёвая сіла, што дапаможа вам атрымаць асалоду ад гэтага часу.



**Стралец (23.11–21.12)**

Поспех гэтых дзён будзе залежаць ад вашай здольнасці ці жадання супрацьстаяць чужым патрабаванням, асабліва прадстаўнікоў улады. Магчыма, вы трапіце ў сітуацыю, якая прымусіць вас усумніцца ў будучым поспеху вашай цяперашняй дзейнасці. Калі зможаце праявіць цярпенне і будзеце разумна рэагаваць на кантакты з навакольнымі, то пераадолееце перашкоды.



**Казярог (22.12–20.01)**

Рамантыка, каханыя, радасць і задавальненне стануць крыніцай вашага натхнення. Цяга да смачнай яды і вясёлых кампаній не застанецца незадаволенай, а з рызыкоўных авантур вы выйдзеце пераможцам. У гэтыя дні вы можаце атрымаць асалоду ад заняткаў спортам ці фізічнай работы. Перыяд спрыяльны для творчых людзей, мастакоў і музыкантаў для ўвасаблення іх ідэй.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Асабліва значнымі стануць дом, сям'я. Вы зможаце адзначыць, як моцна прывязаны да дома, да бацькоў, да сям'і. Гэта перыяд, калі касмічныя энэргіі дапамогуць адчуць, наколькі важная для вас гэта галіна. Бо зямная задача Вадалеяў – аб'ядначь людзей, блізкіх па духу, несці свету прагрэс і гуманнасць. Часта дзеля агульначалавечых інтарэсаў вы ўшчамляеце ў правах блізкіх.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Вы маеце патрэбу ў рабоце, якая б прыносіла не толькі матэрыяльнае, але і творчае задавальненне. Вы хочаце быць заўважанымі і ацэненымі. Можа з'явіцца неабходнасць у атрыманні новых ведаў. У гэты час вы павінны многаму навучыцца, збіраць інфармацыю не для кар'еры, а для інтэлектуальнага росту. Старайцеся клапатліва адносіцца да сям'і.

## Санітар–забойца

**Брэст, 9 сакавіка. Санітар Гарадзішчанскай псіханеўралагічнай бальніцы (Брэсцкая вобласць) падчас сваркі так збіў пацыента, што той памёр ад атрыманых траўм.**

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкама, у Пінскую гарадскую бальніцу 58-гадовы пацярпелы быў дастаўлены вечарам 6 сакавіка. Медыкі канстатавалі, што пацыенту псіханеўралагічнай бальніцы, які хварэў на эпілепсію, нанесены шматлікія траўмы. Праз некалькі гадзін мужчына памёр.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку Пінскага райаддзела міліцыі выявілі, што збіў хворага падчас сваркі санітар псіханеўралагічнай бальніцы, прычым яшчэ раніцай 6 сакавіка. У Пінскую бальніцу пацярпелага даставілі толькі ў 17 гадзін.

Падазроны ва ўчыненні злачынства санітар затрыманы, у дачыненні да яго ўзбуджана крымінальная справа па частцы 3 артыкула 147 Крымінальнага кодэкса Беларусі (наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання).

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**



**Рэгіянальная газета**

**Галоўны рэдактар Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227 ад 19.08.2003 г. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёну і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 5 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 9800 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 63369 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. № 11 (464) 12.3.2004. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ.
222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 824. Падпісана ў друк у 13.00 11.3.2004

Наш адрас: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.** Тэлефоны/факс: (01773) **6-96-67**, **5-38-41** (рэклама), **5-07-99**
E-mail: regionnews@promedia.by, http://regionnews.promedia.by

## Прыём дробных аб'яў

**Маладзечна** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **69667**, **53841**.
**Вілейка** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». Тэл. **55284**.
**Вілейка** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233**, **55539**.
**Смаргонь** вул. Танкістаў, 1, аддзяленне сувязі №2 Смаргоні. Тэл. **22211**.
**Чысць** вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **99172**.

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна: **Астравец** – 01591, **Ашмяны** – 01593, **Валожын** – 01772, **Вілейка** – 01771, **Маладзечна** – 01773, **Мінск** – 017, **Мядзел** – 01797, **Смаргонь** – 01592

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444